# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991 №15 (136) 19 ЛІПЕНЯ 1999г.


*Высакародны правакатар мастак Алесь Пушкін —*

на старонцы 10



зь Беларусі

## На 2 дні зь Фінляндыі

Васіль Быкаў 15 ліпеня прыехаў на 2 дні зь Фінляндыі, каб пабываць на бацькаўшчыне на Ўшаччыне. Ён мае намер працаваць у Фінляндыі яшчэ прынамсі да канца гэтага году.

## Камандуючага ВПС арыштавалі

У пятніцу арыштавалі камандуючага ваеннапаветранымі сіламі Беларусі Сяргея Булыгіна й дырэктара ЗАТ «ТэхАвіяСэрвіс» В.Жыгачова за парушэньні пры продажы й здачы ў арэнду самалётаў. Ня ўсе ў гэта вераць.

## Шарэцкі пад аховай АБСЭ

Сямён Шарэцкі папрасіў прытулку ў місіі АБСЭ. Ён зрабіў гэта, каб застрахавацца да 21 ліпеня ад арышту, які, паводле зьвестак Вярхоўнага Савету, рыхтаваўся. Вік і Кляйнэр быццам бы ўразіліся. Нам яны камэнтаваць і прызнаваць гэты факт адмовіліся.

## Лашкевіч, Капітан і Пастухоў

15 ліпеня пад Менскам прайшло пасяджэньне прэзыдыюму Вярхоўнага Савету. Прынялі пастанову, што 21 ліпеня ўся ўлада ў краіне пераходзіць да Сямёна Шарэцкага. Працэдура перадачы ўлады заплянаваная папярэдне на 21-е. Таксама папярэдне назвалі імёны тых, хто зойме галоўныя дзяржаўныя пасады. Мяркуецца, што прэм'ер-міністрам стане бізнэсмэн-камуніст Анатоль Лашкевіч, пракурорам — Васіль Капітан, што пайшоў у адстаўку ў 1996-м, а старшынём Канстытуцыйнага Суду — Міхал Пастухоў, былы віцэ-старшыня. Аднак толькі ад нас залежыць, ці 21-га ўсё пройдзе з толкам, ці справа абмяжуецца асобнымі пікетамі ў розных гарадах. Прадпрыемствам Лукашэнка забараніў 21-га адпускаць людзей у адгулы.

## Сталінцы ў Баранавічах

Трое маладзёнаў паспрабавалі крыкамі «Сталін, Берыя, Гулаг» сарваць сустрэчу з прадстаўнікамі незалежнай прэсы. Калі да іх падступіліся, яны ўцяклі. Мясцовыя фронтаўцы спрабавалі дагнаць, але не дагналі.

## Менск расьпісалі

Невядомыя маладафронтаўцы ўночы на выходных пісалі ў Менску сьцены лёзунгамі. Вельмі шмат надпісаў на іншаземных мовах. Так, на браме дзяржаўнага радыё напісалі «Luka game over». Ясна, нярускія пісалі.

## Чыгіра труцяць?

16 ліпеня тройчы з розных крыніцаў у Камітэт за вызваленьне Чыгіра паступіла зьвестка, што таго ў турме хочуць атруціць. Юлія Чыгір неадкладна ўначы спаткалася з прадстаўніком АБСЭ Вікам, а 17 ліпеня — зь міністрам замежных справаў Румыніі Севярынам. Ёй як адвакату дазволілі спаткацца і са сваім чалавекам. Чыгір быў нейкі замаруджаны, сказала яна, а ў камэру да яго падсадзілі нейкага дзіўнага пятага сядзельца, дык яна параіла мужу не спажываць больш ніякае турэмнае ежы.

## Севярына слухалі

Пад час перамоваў прадстаўнікоў АБСЭ з дэпутатамі ВС 15 ліпеня адна з работніц АБСЭ пад сталом выпадкова намацала мікрафон. Сп. Лябедзька кажа, што Севярын ня ўразіўся. За Чаўпэску ён і не такога бачыў.

# ТАМУ ШТО ВЫ БЕЛАРУС, ШТО ЯНА БЕЛАРУСКА

## Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла адказвае на пытаньні рэдактара «НН»

Перад 20-м ліпеня, калі наша краіна рызыкуе застацца зь нелегітымнай уладай, страціць незалежнасьць ды пагрузіцца ў хаос, кожны адказны палітык мусіць прамовіць свае галоўныя словы. Многія ў такім становішчы пазіраюць на эміграцыйную Раду БНР з надзеяй адтуль пачуць пра верныя арыенціры. Па-першае, збоку заўсёды відней. Па-другое, Рада знутры мае досьвед цывілізаваных краінаў. Па-трэцяе, Раду не западозрыш у чужых інтрыгах.

З прыходам на пасаду Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы дзейнасьць гэтай арганізацыі заўважна ажывілася і стала моцна бліжэйшай да Беларусі. Сама Старшыня добра інфармаваная пра ўнутрыбеларускія справы і мае на іх свой выразны погляд. Пра яго яна распавяла ў адказах на пытаньні галоўнага рэдактара «НН».

*Працяг на старонцы 3.*



Фота Анатоля Клешчука

**21 ліпеня** будзем гуляць. На станцыі мэтро «Кастрычніцкай» нехта паклаў на эскалятары гурбы ўлётак. Кожны, хто ехаў, браў сабе па пары штук. Улёткі запрашаюць усіх на «сьвята праводзінаў на заслужаны адпачынак прэзыдэнта Лукашэнкі», у цэнтар гораду, да Цэнтральнай плошчы. На адным баку ўлётка піша, што гэта адбудзецца а 17-й, а на другой — што пачнецца а 16-й. Карміць будуць сасіскамі, паіць газвадзічкай, будуць выступаць «мастацкія калектывы». У лістоўцы надрукавалі й рэзалюцыю зьезду работнікаў, які праводзіў Антончык, вельмі рашучую — кляймяць Лукашэнку, бо ён «давёў наша гаспадарства да ручкі» (за Антончыкам, дарэчы, ад 16 ліпеня цугам ходзяць віжы, як ён сам паведаміў у «Хартыю-97»). Лістоўка напісана па-расейску, але з такой колькасьцю памылак, што адразу відаць — беларусы пісалі.

Б.Т.

**P.S.** У рэдакцыю прыходзяць людзі з розных куткоў Беларусі і кажуць, што зьбіраюцца ў Менск надоўга й сур'ёзна — з палаткамі. Так, з раёнаў вакол Берасьця быццам бы ўжо купілі білетаў на 957 чалавек, з Баранавічаў едзе 200 і г.д.

# МІФ ПРА НЕЗАМЕННАСЬЦЬ КІРАЎНІКА

*Тэлевізар*

Міф пра незаменнасьць А.Лукашэнкі на пасадзе кіраўніка краіны ствараўся ўсе гэтыя пяць гадоў. Вынік — у сёньняшніх сацыялягічных апытаньнях, дзе 45 працэнтаў і сёньня галасавалі б за Лукашэнку, зь іх працэнтаў 20 — таму, што лепшага (іншага) усё роўна няма. Між тым, гэта толькі міф, і ягонае станаўленьне зьвязанае з дзьвюма прычынамі:

1. Узурпацыя А.Лукашэнкам электронных СМІ. Дзе яшчэ можна пабачыць і пачуць патэнцыйных канкурэнтаў, як ня ў радыё і тэлебачаньні? У незалежнай прэсе? Але яе эфэктыўнасьць у сто разоў ніжэйшая за ТБ, дзе на дзень часу Лукашэнкі прыходзіцца нуль часу канкурэнтаў.

2. Бачачы марнасьць высілкаў і вузкасьць свайго інфармацыйнага поля, апазыцыйныя партыі перасталі сур'ёзна «раскручваць» сваіх кандыдатаў. Такая праца проста не вядзецца.

*Працяг на старонцы 6.*



# РОД ФРОНТУ

***Зьберагчы адзінства БНФ***

Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Паходжаньне БНФ, які ў канцы 80-х, быццам стыхія, уварваўся ў жыцьцё краіны, запоўніў вуліцы й на вачох перавярнуў сьвет, для мяне, простага савецкага школьніка адзінаццаці гадоў у Віцебску, было тайнай страшнай і неспасьціжнай. Памятаю, зь якім містычным жахам разглядаў я ў нашым глухім і нямым двары, дзе не магло здарыцца нічога *такога*, фантастычны надпіс крэйдаю на сьцяне гаража: «Не Саюз, а вольная Беларусь!»

Сёлета Фронту самому спаўняецца адзінаццаць — праўда, цяпер, перад VI Зьездам, усе хорам сьцьвярджаюць: «Не дажыве». Ужо закладваюць на пальцах, колькім нашчадкам абломіцца спадчына, ужо і ўсялякія ўнутрыфронтаўскія дзеячы, вітаючы супрацiўнікаў, у прадчуваньні міжбою з зубастымі ўсьмешкамі мацаюць пяцярні ахвяраў, ці цёпленькія яшчэ, а тымчасам адчайныя шарагоўцы з суполак рыхтуюцца да 21-га ліпеня з высакавольтнымі сьцягамі й рукапашнай на Кастрычніцкай плошчы — і, шчыра сказаць, не ўдаецца даўмецца, дзе ўсё ж такі вытокі Фронту зь яго генэральнай драмай, што за жарсьці скаланаюць скляпеньні на Варвашэні 8, і чым гэта пагражае ўсёй краіне. Па растлумачэньні лепш за ўсё зьвярнуцца наўпрост да імя і прагаварыць яго яшчэ раз: БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ «АДРАДЖЭНЬНЕ». Аднакарэнны код адмыкае сакрэт з двух ключавых абаротаў. Народ... Адраджэньне... Чуеце?

*Працяг на старонцы 7.*

лісты ў рэдакцыю

### ДВА СЬВЯТЫ Ў АДЗІН ДЗЕНЬ

*Не сакрэт, што кожнага году ў вёсцы Вязынцы каля Радашкавічаў адзначаецца дзень нараджэньня Янкі Купалы. Бо ён тут нарадзіўся. Сьвяткуюць па-рознаму. Сёлета, здаецца, акрамя некалькіх міліцыянтаў, ад мясцовых уладаў нікога не было. Зь Менску прыехалі музэйныя работнікі ды крыху паэтаў на чале з Навумам Гальпяровічам. Ды й слухачоў не было б, калі б электрычкай не пад'ехалі жанчыны (лікам каля дваццаці) — асаблівыя прыхільніцы паэзіі і беларушчыны. З крыкам, сьмехам ды піскам зьявіліся дзеці з навакольных школьных летнікаў ды адразу ж разьбегліся хто куды. Адныя рвалі непасьпелыя яблыкі ў садзе, другія пілі ваду з крыніцы, трэція (іх было найменей) хадзілі па музэйных будынках. Сонечны гадзіньнік, які быў зроблены ў 1992 годзе і на якім ужо няма паловы валуноў (расьцягнулі навакольныя дачнікі), паказваў, што пара пачынаць сьвята паэзіі. І яно пачалося...*

*Пазьней высьветлілася, што большасьць дзяцей зь летнікаў толькі тут упершыню даведаліся, што ў нас ёсьць Янка Купала і што ён паэт. Праўда, пад час сьвяткаваньня 200-годзьдзя А.Пушкіна ў яго на радзіме некаторыя яго землякі таксама не маглі адказаць на пытаньне: «Хто такі Пушкін?» Адныя казалі, што футбаліст, другія — хакеіст...*

*Затое ў нас Пушкіна ведаюць і любяць усе: і дзеці, і дарослыя, і паэты. Беларускія паэты, якія штогод прыяжджалі ў Вязынку, гэтым разам аддалі перавагу статуі Пушкіна ў Менску, на адкрыцьцё якой меўся прыехаць мэр Масквы Лужкоў, каб яму пачытаць свае вершы. Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк, Раіса Баравікова ды некаторыя іншыя пайшлі туды і вершы, мусіць, пачыталі. А Лужкоў і не прыехаў.*

**В.А.**

### Я ЛЮБЛЮ «NEW COSMOPOLIS»

*«Слухач» у сваім допісе памыляецца. Сьпевы такіх гуртоў, як «New Cosmopolis», будзяць нацыянальную сьвядомасьць, гэта значыць, выхоўваюць нацыянальна пайнавартасных людзей. Бестактоўна называць шчырыя беларускія сьпевы «плаканьнем» аб мінуўшчыне. Кожны сапраўдны беларус бароніць Бацькаўшчыну так, як умее і як можа. Сьпевы гэтага гурта падабаюцца, дапамагаюць нашым дзецям стаць сьвядомымі беларусамі ды прышчапляюць патрыятызм і любоў да Бацькаўшчыны.*

*У адрозьненьне ад «Слухача», я падпісваюся сваім уласным прозьвішчам.*

**Уладзімер Гундар, Баранавічы**

* * *

*Чырвона-зялёны сьцяг — каляніяльны. Ён паходзіць ад асноўнага сьцягу савецкай імпэрыі. Чырвань паказвае на падпарадкаванасьць Саюзу, а зялёная паласа — прымітыўны знак адрозьненьня адной калёніі ад іншых. Хіба арнамэнт — адзіная некаляніяльная дэталь (хаця яе ўвядзеньне мае паказаць: нацыянальнае жыцьцё зводзіцца да фальклёру). Ёсьць аналёгія — сьцягі Аўстраліі і некаторых астравоў Ціхага акіяну. Яны раней былі калёніямі Брытаніі, і на сьцягах гэта адлюстравалася так: тло сьцягу сіняе, у верхнім левым куце — маленькі брытанскі сьцяг, а на сінім тле — камбінацыі зорачак, розныя на розных сьцягах. Менавіта камбінацыі і ёсьць знакамі адрозьненьня сярод былых калёніяў.*

**Віталь Станішэўскі, Менск**

### А ВОСЬ І ЗАХІНЕМ!

*Поўнасьцю прымаем крытыку аўтара ліста на адрас газэты «Наша слова». Для сяброў ТБМ гэта сапраўды балючае месца. Тут шаноўны аўтар трапіў у дзясятку, «укусіў» за жывое. «Наша слова» — своеасаблівае люстэрка, у якім, як нідзе, адбіваецца сёньняшні дзень нашай краіны. Гэта, калі хочаце, вобраз самога беларуса, які прагне выжыць у вар'яцкай сытуацыі. Але зразумейце, без газэты Таварыства працаваць няма можа. Нават калі б на яе старонках, як сьцьвярджае В.М., знаходзіліся адно толькі «справаздачы, заявы і скаргі», напісаныя «дубовай мовай», яна нам неабходная. Таму крытычная заўвага аўтара ліста наконт «Нашага слова» — не навіна для нас. Дзякуй Богу, прыкладна 99,9 адсоткаў прыхільнікаў разам з намі церпяць гэты боль і, як могуць, дапамагаюць.*

*Ліст «Захінем пікетам мову» абмяркоўваўся на сакратарыяце ТБМ. Ён выклікаў розныя, часам супярэчлівыя меркаваньні. На наш погляд, у дэмакратычным друку не павінна быць публікацыяў, у якіх людзі займаюцца самаедзтвам. Што да пікетаў, дык іх карысьць, на нашу думку, бясспрэчная.*

**Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ**

## Дзень Грунвальду

У далёкім ліпені 1410-га году аб'яднаныя беларуска-польскія войскі з дапамогай літоўскіх і татарскіх атрадаў разьбілі пад Грунвальдам знакамітае крыжацкае войска і выратавалі свае народы ад тэўтонскай акупацыі і асыміляцыі. Перамогшы ў гэтай бітве, беларускі народ ня толькі захаваў сваю незалежнасьць, але й сваю мову, культуру.

Мы добра ведаем незайздросны лёс цэлага шэрагу заходнеславянскіх моваў, якія былі зьнішчаныя пад нямецкай акупацыяй.

ТБМ не сумняваецца, што ў XXI ст. 15 ліпеня ўвойдзе чырвоным радком ва ўсе беларускія календары і стане афіцыйным дзяржаўным святам незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.

**Сакратарыят ТБМ**

# ЛІПАВЫ ЛІПЕНЬ

Вольга КАРАТКЕВІЧ



Добры сябра ўсё больш настойліва пытаецца ў справакаванага прагнозамі атачэньня: «А што за дата — 21 ліпеня?» Бальшыня загадкава ўсьміхаецца.... Маўляў, канец прэзыдэнцкай пяцігодкі. Якую ППРБ, трэба адзначыць, адпрацаваў як мае быць — па-ультрасавецку. А знаёмец мой меў на ўвеце трыццаціогодзьдзе высадкі на Месяц амэрыканца Армстронга. У нас ведаюць як мінімум два Армстронгі — касманаўта Ніла і сьпевака Луі. Асаблівa апошняга — пасьля рэклямы расейскага «Альфа-банку», дзе абгульвалася песьня «Go down Moses». Беларусы інтуітыўна адчулі глыбіннасьць тэксту і палюбілі вабную мэлёдыю. У Гомелі ў рэстаране гатэлю «Надзея» я назірала, як на Дзень нараджэньня адной спадарыні спачатку ад імя вечна любячага мужа, пасьля — вечна адданай сяброўкі, вечна блізкіх сяброў і вечна горача спачуваючых бацькоў цягам вечару гучэў гэты перасьпеў Луі Армстронга чатыры разы. Далібог, праўда. І скакалі аднолькава, як пад «как упаіцельны ў Расіі вечара...» Няўжо ад слова «піць»? Поўная арытмія...

Галоўны герой айчыннай радыё- і друкаванай публіцыстыкі — Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка, ад якога публіцысты надта чакалі хоць нейкага кан'юнктурнага кроку патураньня аптымістычнай афарбоўцы даты 20-га ліпеня, зноўку азадачыў сваім абстрактным мысьленьнем: «Я вельмі паважаю свой народ, таму кан'юнктурыць ня буду». З нармальнага слова «кан'юнктура» ўтварыў такі брутальны дзеяслоў... А кан'юнктура для яго — гэта што? Пайсьці на пусты дыялёг з парадзелай апазыцыяй, раптоўна абвесьціць выбары і выйграць іх ці ўсіх парадаваць семігодкай свайго праўленьня? Вельмі пагражальна. І верагодна. Не магу не занатаваць артыкул Вольгі Ягоравай у «Советской Белоруссии» за 16.07.1999 «Наш Прэзыдэнт. Рысы да партрэту часу». Усё нічога. І з газэтай ясна. Але ж высновы... "Які ж у нас ва ўсіх твар? — пытаецца Вольга. — Паглядзіш на Прэзыдэнта — мужны і адкрыты, які не баіцца складанага шляху, скамплікаваных рашэньняў. Шмат ён бярэ на сябе». Апошняе — рацыя. Што да твару, дык мне больш цікавым быў твар сп. караля правінцыі Квазулу-Наталь (ПАР) Звеліціні Гудвіла Кабэкузулу. Дарэчы, адзінай правінцыі з канстытуцыйна зацьверджанай манархіяй у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Візыт якога быў пададзены як дасягненьне айчыннай афіцыйнай дыпляматыі. Што ж, Уралу Рамдракавічу лепш ведаць.. І чаму амбасадар Злучаных Штатаў Амэрыкі Дэніэл Спэкгард перабываў у Беларусь амаль інкогніта і ніяк не мог выбіць кампэнсацыі за дэпартацыю з Драздоў? Тым, хто быў узгадаваны сярод людзей і хмарачосаў, цяжка зразумець вырaслых сярод ваўкоў і расьлінаў. А наш Маўглі ніяк не вызначыцца, з кім ён аднoй крыві.

Хто што папрыдумляў на 20-га і 21-га ліпеня. Турагенцтвы пабагацеюць за кошт тураў аднаго дня, Опэрны з прэм'ерай радзівілаўскага «Фаўста» будзе перапоўнены, акцыі, дэманстрацыі... А я ў рэстарацыі «Грунвальд» зьем самую дарагую страву — стэк з асятрыны «Лукамор'е». ■

# ЗАХАД ЗЬМЯНЯЕ ТАКТЫКУ

***Краіны Заходняй Эўропы і ЗША, якія не прызналі вынікаў рэфэрэндуму 1996 году, зьменаў у Канстытуцыі і працягу прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі пасьля 20-га ліпеня, таксама стаяць перад пытаньнем — а што далей? Сёньня адказ на гэтае пытаньне шукае Рабочая Група Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ па Беларусі на чале са спадаром Адрыянам Севярынам.***




Фота IREX-Promedia

Адрыян Севярын.

Паводле лёгікі непрызнаньня, Захад мусіў бы ўжо 21-га ліпеня адклікаць зь Беларусі сваіх паслоў, увесьці супраць нашай краіны эканамічныя санкцыі і стварыць для Беларусі становішча поўнай міжнароднай ізаляцыі. Але да чаго б гэта ўсё прывяло? Да таго, што ў Беларусі засталося б толькі адно пасольства адной вядома якой краіны? Да таго, што беларуская эканоміка стала б не на 90, а на 100 працэнтаў залежаць толькі ад Расеі? Да таго, да чаго прывяла ізаляцыя ў Югаславіі — гэта значыць, да ўзмацненьня дыктатуры Мілошавіча і ўрэшце — да вайны?

Аднак самая галоўная прычына, чаму ня можа быць працягнутая лёгіка непрызнаньня, у тым, што рэальная ўлада над намі застаецца ў руках нелегітымнага прэзыдэнта, а апазыцыя не дастаткова моцная, каб пераняць уладу або хоць бы стварыць сытуацыю двоеўладзьдзя. У такім становішчы Захад прагматычна зьмяняе сваю тактыку. Лукашэнка не легітымны прэзыдэнт, але рэальны правіцель, — разважаюць яны. — І мы пачынаем размаўляць зь ім, як з рэальным правіцелем, чаго раней не рабілі. Новая тактыка складаецца з малых крокаў — з дыпляматычнае «мікрахірургіі», праз якую Захад спадзяецца аднавіць у Беларусі сыстэму грамадзкіх узаемадачыненьняў, уласьцівую для дэмакратычных краінаў. Тэма для дыялёгу з А.Лукашэнкам — парлямэнцкія выбары 2000 году.

Сп. Севярын лічыць, што гэта найбольш прыймальны першы крок для дэмакратызацыі ў Беларусі. Калі ўдасца ўгаварыць А.Лукашэнку правесьці такія выбары паводле стандартаў АБСЭ, гэта значыць, з роўным доступам усіх кандыдатаў у электронныя СМІ, тады прадстаўнікі апазыцыі непазьбежна апынуцца ў рэальным палітычным працэсе, а ня толькі на вулічным мітынгу, якім сёньня іхныя магчымасьці і абмяжаваныя. З гэтага пачнецца перагляд заканадаўства, падагнанага сёньня пад адну асобу, на гэтым скончыцца аўтарытарная мадэль Беларускае дзяржавы.

На сустрэчы ў мінулы чацьвер сп. Севярын прадставіў А.Лукашэнку рэзалюцыю пра становішча ў Беларусі, якую 10-га чэрвеня прыняла Парлямэнцкая Асамблея АБСЭ у Санкт-Пецярбургу. Там да роўнага ўдзелу на радыё і тэлебачаньні ўсіх кандыдатаў адзінагалосна заклікалі парлямэнтары ўсіх 54-х краінаў, у тым ліку і Расеі. А.Лукашэнка быў «очань благадаран» сп. Севярыну за «тую работу ў рамках кансультацыяў па правядзеньні свабодных і справядлівых парлямэнцкіх выбараў 2000 году». Зразумела чаму. Спадзевы на Крэмаль праваліліся, дачыненьні з Расеяй ня ладзяцца, легітымнасьць сканчаецца... А тут — самі заходнія паслы — з прапановамі. Ды я вам сто выбараў праведу, і самых свабодных, і самых справядлівых. Толькі ня сёньня, пасьля калі-небудзь, у 2000-м. А апазыцыю на тэлебачаньне пусьціць — не ў маёй кампэтэнцыі. У нас свабода слова, і кіраўнік дзяржавы ня можа ціснуць на СМІ...

Тактыка малых крокаў з боку Захаду сустрэлася з тактыкай вялікай хлусьні з боку пакуль яшчэ прэзыдэнта РБ. Сп. Севярын папрасіў ня спытваць у яго прагнозаў. Я бягун, маўляў, мая задача прыбегчы першым. Хоць і малымі крокамі. А не прагназаваць вынік.

Такім чынам, Захад пачаў перамовы з А.Лукашэнкам, які пасьля 20-га будзе ўжо не прэзыдэнтам, а правіцелем. І гэта ўвогуле слушна. Ну не пасылаць жа натаўскія бамбавікі, каб змусілі А.Лукашэнку сысьці, саступіўшы месца сп. Шарэцкаму. Ня змусяць. Толькі народ, зьяднаны вакол моцнай апазыцыі, можа змусіць. А ні першага, ні другога ў нас пакуль што няма.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Івонка Сурвілла: «ТАМУ ШТО ВЫ БЕЛАРУС, ШТО ЯНА БЕЛАРУСКА»

*Працяг са старонкі 1.*

***П**ерад тым, як перайсьці да гутаркі, я запытаўся ў спадарыні Івонкі, чаму яна заўсёды піша сваё прозьвішча праз два «л», што не адпавядае сучаснаму беларускаму правапісу. Адказ быў такі: «Для Янкі, майго мужа, было вельмі важным, каб прозьвішча яго пісалася зь дзьвюма «л», так, як яго пісалі яго-ныя дзяды. Дзеля гэтага хацела б прадаўжаць пісаньне зь дзьвюма «л».*

***— Спадарыня Івонка, якія варыянты разьвіцьця падзеяў у Беларусі пасьля 20-га ліпеня разглядае Рада БНР?***

— 20-га ліпеня Сп. Лукашэнка перастае быць легітымным прэзыдэнтам Беларусі.

Калі ён дабравольна не пакіне становішча, на якім знаходзіцца, дык будзе ўважацца ўзурпатарам улады згодна з Канстытуцыяй, на якой прыняў прысягу пасьля таго, як беларускі народ яго выбраў прэзыдэнтам. Гэта значыць, што ўсе дэкрэты, усе пагадненьні, якія будуць ім падпісаныя, будуць нелегальныя. Усякі дагавор, падпісаны ім з Расеяй, будзе лічыцца Радай БНР і ўсімі дэмакратычнымі дзяржавамі сьвету ні чым іншым, як аднабаковай акцыяй з боку Расеі, акупацыяй Беларусі Расеяй.

Ёсьць, безумоўна, магчымасьць, што Лукашэнка, які ніколі ня дбаў аб долі беларускага народу, будзе старацца ўтрымацца пры ўладзе сілаю. Аднак, мне думаецца, што на гэта ня пойдуць ані беларускае войска, ані нават паплечнікі Лукашэнкі ў Маскве.

***— Якія перамены, з гледзішча Рады, былі б найжаданейшыя для Беларусі, нават калі яны сёньня падаюцца ідэальнымі?***

— Паколькі не было магчымасьці правесьці выбараў згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, 20 ліпеня ўлада мусіць перайсьці ў рукі Старшыні Парляманту Беларусі 13-га скліканьня Спадара С.Шарэцкага. Ягоным галоўным заданьнем будзе сарганізаваць выбары пад назорам АБСЭ ці нават Аб'еднаных Нацыяў. Спадзяюся, аднак, што першым яго крокам будзе вызваленьне ўсіх палітычных вязьняў і ануляцыя ўсіх антыбеларускіх дэкрэтаў, прынятых Лукашэнкам.

Што да Рады БНР, прыпомню тут, што яе асноўнай мэтай ёсьць «адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасьці ўсімі магчымымі і даступнымі спосабамі і дарогамі». Змаганьне за незалежнасьць Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі Рада будзе прадаўжаць, пакуль не асягне гэтае мэты. Да часу вольных выбараў Устаноўчага Сойму ў незалежнай і сувэрэннай беларускай дзяржаве Рада зьяўляецца «праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу, выяўленых у праватворчым Акце 25-га Сакавіка 1918-га году» (цытую Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі).

Адна з дарог змаганьня Рады за незалежнасьць сувэрэннай і дэмакратычнай нашай Бацькаўшчыны, якой Беларусь мусіць стацца, каб заняць належнае месца між іншымі разьвітымі краінамі сьвету, ёсьць падтрымка з нашага боку палітычным дзеячом у Беларусі, якіх мэты супадаюць з мэтамі Рады БНР. У Беларусі ёсьць шмат здольных і адданых Бацькаўшчыне людзей, якія здолеюць паставіць на ногі наш край. Першым заданьнем новага прэзыдэнта будзе зьяднаць наш народ кругом найлепшых ідэяў ды праграм усіх палітычных партыяў.

***— Адзін з ідэальных, як выглядае сёньня, варыянтаў разьвіцьця — прыклад Літвы і Латвіі, дзе прэзыдэнтамі сталі прадстаўнікі дыяспары, не зьвязаныя з савецкай мінуўшчынай. Ці дапускалі Вы асабіста для сябе магчымасьць уключыцца ў будзённую палітыку на Бацькаўшчыне? Калі так, дык якія былі б Вашыя найпершыя крокі на пасадзе кіраўніка дзяржавы?***

> **— Калі беларускі народ будзе жадаць зьяднацца кругом ідэалаў 25-га Сакавіка, уважала б вялікім гонарам «уключыцца ў будзённую палітыку».**

Аднак ня гэта зьяўляецца маёй мэтай. Усё жыцьцё старалася спрычыніцца да палепшаньня долі нашага народу, а палепшаньне гэтае магчымае толькі ў рамках вольнай, незалежнай, дэмакратычнай беларускай дзяржавы. Гэта і цяпер адзіная мая амбіцыя і адзіная амбіцыя Рады БНР.

Безумоўна, не маглі мы не разважаць аб тым, якія мусяць быць першыя крокі новага дэмакратычнага ўраду незалежнай Беларусі, ад чаго ён будзе мусіў пачаць, каб найхутчэй вывесьці Беларусь зь цяперашняга застою.

Дасьведчаньне краінаў, якія дасягнулі ўжо ўзровень жыцьця, да якога імкнуліся, можа нам быць карысным і цэнным. Тут мушу заўважыць, што савецкая намэнклятура, якая была апынулася фактычна пры ўладзе ў Беларусі ў пачатку 90-х гадоў, гэтага не жадала сабе ўсьведаміць... Тады, калі Украіна, Прыбалтыка, Польшча, Чэхія карысталіся як мага дасьведчаньнем сваіх былых грамадзянаў, што жылі тады на Захадзе, Беларусь ігнаравала сваю дыяспару.

Паводле майго досьведу, найвялікшая вартасьць для Беларуса — гэта справядлівасьць. Ён спадзяецца на справядлівае трактаваньне яго ня толькі ўладамі, але нават і... лёсам. Хоча мець тыя самыя шанцы здабыцца на лепшае жыцьцё ня толькі што ягоныя суседзі ці знаёмыя, але і што Немцы ці Амэрыканцы. На маю думку, ад гэтага трэба пачынаць.

Трэба найперш паставіць на ногі эканоміку краіны. Трэба зьменшыць намэнклятурны апарат, міліцыю, войска. Трэба пакончыць з злоўжываньнем службовых магчымасьцяў (лічыцца яно паважным праступствам на Захадзе). Трэба дастасаваць дзяржаўны бюджэт да сапраўдных патрэбаў беларускага народу, як сацыяльных (а ў першую чаргу — для дзяцей, пэнсіянэраў, ахвяраў чарнобыльскай бяды, інвалідаў), так і эканамічных (сельскай гаспадаркі, індустрыі).

Неабходная будзе рэформа сельскай гаспадаркі. Беларусь мусіць быць здольнай пракарміць сябе. Чэргі па прадукты папросту недапушчальныя ў краіне, якая корміць Маскву. Найперш трэба забясьпечыць транспарт харчоў, даць кожнаму селяніну магчымасьць прадаваць іх за цану ягонае працы.

Права на працу ўважаецца на Захадзе адным з галоўных правоў чалавека. Кожнаму Беларусу мусіць быць магчыма знайсьці працу, зарабіць ня толькі на кавалак хлеба, але і на людзкія ўмовы жыцьця. Краіна павінна ствараць спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця новых прадпрыемстваў, дастасаваць вырабы да патрэбаў насельніцтва, спыніць вываз валюты заграніцу.

Дзеля стварэньня здаровай эканамічнай структуры патрэбныя будуць сродкі. Сродкі гэтыя існуюць, і Беларусь будзе магчы імі карыстацца так, як гэта робяць усе іншыя краіны, якія не ізалююць сябе ад рэшты сьвету. Беларусь знаходзіцца, пад гэтым поглядам, у найгоршым палажэньні з усіх рэспублік былага Савецкага Саюзу. І гэта выключна дзеля палітыкі, унутранай і замежнай, свайго уласнага прэзыдэнта.

Безумоўна, нават найлепшыя намеры нічога не дадуць без супрацоўніцтва насельніцтва, зьяднанага кругом свайго ўраду. І я вось уяўляю сабе, якую краіну мог бы сабе стварыць наш зьяднаны, разумны, таленавіты і працавіты народ. Другую Канаду ці Данію, ці Галяндыю... З сумам бачу, як нашыя людзі пакідаюць наш край ды шукаюць лепшае долі заграніцай. Там іх цэняць, захапляюцца іхнай працаздольнасьцю, іхнай умеласьцю. Ня цешуся гэтым, бо ж людзі гэтыя патрэбныя, як ніколі, Беларусі. На жаль, няма каму ствараць ім там умовы працы, умоваў жыцьця, якія заахвоцілі б іх застацца дома.

***— Многія бачаць у Вас арбітра, аўтарытэтнага назіральніка сучаснай беларускай палітыкі. Напэўна, Вам лепей бачныя як удалыя дзеяньні розных беларускіх дзеячоў, так і іхныя памылкі. А гэта значыць, што Вы маглі б нешта параіць, падказаць ім. Якія Вашыя пажаданьні, калі такія ёсьць, спадарам Шарэцкаму, Чыгіру, Пазьняку, а, можа быць, і Лукашэнку?***

— Што да дзеяньняў нашых палітыкаў, маеце рацыю. Адсюль лепш відаць і ўдалыя дзеяньні, і памылкі.

> **Вялізарнаю памылкаю з боку Лукашэнкі была ягоная падтрымка сэрбскага крымінальнага дыктатара Мілошавіча.**

Нашто яму было цягнуць Беларусь у гэтую авантуру, для мяне папросту незразумела. Шмат дзеяньняў Лукашэнкі незразумелыя з пункту гледжаньня беларускага, бо Беларусі яны абсалютна нічога не даюць. Наадварот, аддаляюць яе ад вольнага сьвету. Нармальна бароняць яны толькі інтарэсы нашага ўсходняга суседа, якому самому выгадней паводзіцца больш прыстойна, бо ж такім чынам прадаўжае атрымоўваць вялізарную дапамогу з Захаду. Парады даваць Спадару Лукашэнку я не зьбіраюся, бо ён добра ведае, што робіць і чаму гэта робіць. Найвялікшую паслугу народу, якому ён заўдзячае пяць гадоў улады, ён зробіць, калі пакіне 20-га ліпеня пасаду, на якой меў час і магчымасьць палепшыць долю беларускага народу, ды гэтага не зрабіў.

Спадара Пазьняка і ўсіх іншых дзеячоў дэмакратычнай апазыцыі заклікаю яднацца супраць супольнага ворага. Рада БНР падтрымоўвае ЎСІХ палітыкаў і дзеячоў, якія змагаюцца за вольную і незалежную нашу дзяржаву. Ня думаю, што цяпер час «мыць публічна сваё брудная бялльё». Нам трэба ратаваць наш край ад небясьпекі, у якой ён знаходзіцца.

Ніводзін беларускі палітык, які паважае свой народ, ніводзін Беларус, які шануе самога сябе, не падтрымае лукашэнкаўска-маскоўскай ініцыятывы «інтэграцыі» ці аб'яднаньня Беларусі з Расеяй. Захад нядаўна заявіў, што таксама не падтрымае такога аб'яднаньня, калі ня будзе яно адказваць жаданьню беларускага народу. Таму ёсьць магчымасьць — і ў гэтым Зянон Пазьняк мае рацыю — што Масква можа памагчы Лукашэнку стварыць фіктыўную апазыцыю, зь якой улады будуць «дагаварвацца» ўва ўсім, што толькі ім на руку. Гэтая сытуацыя магла б, безумоўна, стацца моцна небясьпечнай інтарэсам беларускага народу, якіх ніхто не бараніў бы падчас вышэй успомненых «дагавораў». Трэба за гэтым сачыць.

**— Ня раз даводзілася чуць, што Фронт спрафанаваў ідэю сымбалічнага грамадзянства БНР, калі пачаў сам выдаваць паперкі пра запіс у грамадзянства...**

— Сымбалічнае грамадзянства БНР цэннае тым, што яднае беларускі народ кругом ідэалаў 25-га Сакавіка. Падобнае сымбалічнае грамадзянства існавала калісь у Літве. Было яно карысным для вызвольнага руху гэтай краіны. Я думаю, што карысным яно будзе і ў нас.

> **Справа грамадзянства БНР будзе на парадку дня канфэрэнцыі БНР, якая адбудзецца ў бліжэйшым часе ў Лёндане.**

Набыць яго можа кожны Беларус, які падзяляе ідэалы БНР, незалежна ад таго, ці ён ёсьць, ці не, сябрам БНФ. Ні ў якім выпадку яно ня можа стацца манапольляй якой-колечы партыі.

***— Памятаю Вашую прапанову да ўсіх беларусаў на 25-га Сакавіка выстаўляць запаленыя сьвечкі ў сваім вакне. На маю думку, такая ідэя цалкам можа быць пашыраная ўжо ў наступным годзе. Якія яшчэ прапановы такога кшталту існуюць?***

— Ініцыятыва паставіць запаленую сьвечку ў кожным беларускім вакне на 25-га Сакавіка — гэта прыгожы, рамантычны жэст, мэта якога — зьяднацца думкамі з суродзічамі Беларусамі кругом беларускае нацыянальнае ідэі. Аднак сымбалі тады толькі маюць сілу, калі яны зьвязаныя з акцыяй.

На парозе 21-га стагодзьдзя хацелася б, каб кожны Беларус узяўся за нейкую канкрэтную дзейнасьць на карысьць Бацькаўшчыны. Я ўжо мела нагоду прыпомніць некаторым словы амэрыканскага прэзыдэнта Джона Кенэды, які ў сваёй пасьлявыбарчай прамове казаў: «Не пытайцеся, што краіна Ваша можа зрабіць для Вас. Пытайцеся, што Вы можаце зрабіць для сваёй краіны». Нічога няма больш цэннага для краіны, як яе людзі, сьвядомыя і адказныя грамадзяне.

Гляньце кругом сябе. Ці ня ведамая Вам якая старэнькая самотная жанчына, якой спатрэбілася б дапамога? Мо Вы маглі б яе «адаптаваць», раз у тыдзень або ў два яе адведаць, зь ёю пасядзець, магчыма, крышку памагчы што-колечы зрабіць у хаце, а мо нават падзяліцца сьнеданьнем ці абедам. І ўсё гэта таму, што Вы Беларус, што яна Беларуска.

Разумею, што пасьля амаль стагодзьдзя варожых абставінаў жыцьця гэта можа быць шмат цяжэй, як запаліць сьвечку... Вы мусілі самі даваць сабе рады. Вам не давалі нічога за ніштo. Прапаную гэта, таму што ведаю, як моцна Беларусі патрэбнае цяпер пачуцьцё САЛІДАРНАСЬЦІ між сваімі людзьмі. Пачуцьцё, што КОЖНЫ З НАС можа спрычыніцца да нейкай зьмены на лепшае. Задавальненьне, якое будзе даваць гэтае пачуцьцё, з часам пераменіцца ў арганічную патрэбу нешта рабіць для Бацькаўшчыны. А ўсе разам мы адродзім нашую дэмакратычную, незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. ■

### даведка «НН»:

Старшыня Рады БНР **Івонка Сурвілла** (Шыманец) нарадзілася ў 1936 годзе ў Стоўпцах. З 1944 году — у эміграцыі. Жыла ў Францыі, Даніі, Гішпаніі, цяпер — у Канадзе. Мае дзьвюх дачок.

Скончыла вышэйшую Мастацкую Школу ў Парыжы, пазьней — лінгвістычнае аддзяленьне Сарбонскага Ўнівэрсытэту (1959).

Акрамя роднае мовы, валодае яшчэ францускай, гішпанскай, ангельскай, нямецкай, дацкай, лацінскай, нарвэскай, польскай.

У 1958—1965 гадох працавала ў беларускай рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыё. З 1969 году і да апошняга часу працавала англа-францускім перакладчыкам у Фэдэральным Урадзе Канады.

Займалася жывапісам, удзельнічала ў мастацкіх выставах.

У 1989 годзе арганізавала *Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі* і заставалася яго кіраўніком да моманту абраньня Старшынёю Рады БНР.

# БЕЛАРУСЫ ПРАГНУЦЬ НАВУКІ

***Больш за 30% абітурыентаў сёлета выбралі беларускую дыктоўку***

Андрэй СКУРКО

Лета — час уступных іспытаў у навучальныя ўстановы, паступленьняў і правалаў. Мы зрабілі невялікае дасьледаваньне ў менскіх унівэрсытэтах, каб паспрабаваць прасачыць некаторыя тэндэнцыі. У прыватнасьці, нас цікавіла праблема «моўнае арыентацыі» абітурыентаў, якія вось ужо чацьверты год, як маюць права выбіраць між расейскай і беларускай мовамі.

Так, у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце абітурыенты, што абралі ў якасьці пісьмовага экзамэну беларускую мову і літаратуру, складаюць трэцюю частку ад агульнае колькасьці (2050 з 6350-ці). Асаблівай «беларускамоўнасьцю» вызначаюцца прыродазнаўчыя спэцыяльнасьці (геаграфія, біялёгія і г.д.). Найпрэстыжнымі ў БДУ сталіся сёлета «інфармацыя і камунікацыя» (конкурс складае 6,07 заяваў на месца) і «міжнароднае права» (5,85 заяваў на месца). Што тычыцца агульнае колькасьці абітурыентаў, то іх сёлета крыху менш, чым летась (мінулы год быў рэкордным для ўнівэрсытэту па колькасьці пададзеных заяваў — конкурс склаў 3,3, тады як зараз ён 3,08).

У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі агульны конкурс амаль гэткі самы, як летась. Найбольшая колькасьць заяваў пададзеная на спэцыяльнасьці «эканоміка і прававое забесьпячэньне гаспадарчае дзейнасьці» (4,87 на месца), а таксама «бухгальтарскі ўлік, аналіз і аўдыт» (4,75 на месца). А вось адсотак абітурыентаў, што выбіраюць беларускую мову ў якасьці пісьмовага іспыту, штогод зьмяншаецца — сёлета яны складаюць толькі чвэрць ад агульнае колькасьці, тады як мінулым годам было 30%, а ў 1995-м — увогуле 70%.

У Акадэмію міліцыі ў гэтым годзе пададзена прыкладна на 100 заяваў менш, чым летась, аднак конкурс узрос, бо набор меншы, чым раней. Самым папулярным стаўся профіль крымінальнае міліцыі, які па колькасьці пададзеных заяваў абагнаў нават сьледча-экспэртны профіль, што раней займаў першыя пазыцыі. Суадносіны «расейскамоўных» і «беларускамоўных» сярод будучых афіцэраў — 70 да 30-ці (каля 520-ці абітурыентаў абралі расейскую мову і каля 220-ці — беларускую). Асобную праблему дадзенай навучальнай установы складаюць жанчыны-курсанткі, асабліва сёлета, калі ім дазволена вольна паступаць у Акадэмію (раней дзяўчына магла вучыцца тут толькі ў тым выпадку, калі хтосьці зь яе сямейнікаў загінуў або атрымаў калецтва пад час працы ў органах МУС). У сувязі з надзвычайнай колькасьцю дзявочых заяваў кіраўніцтва Акадэміі нават вымушанае было хадайнічаць аб павелічэньні верхняе планкі набору «асобаў жаночага полу» (існуе строгая рэгляментацыя колькасьці дзяўчын-курсантак — ня больш за 7%, то бок 24 дзяўчыны ў гэтым годзе).

Цікава, што ў Беларускім дзяржаўным тэхналягічным унівэрсытэце таксама існуюць негалосныя абмежаваньні паводле полавай прыналежнасьці. Перш за ўсё гэта тычыцца спэцыяльнасьцяў, зьвязаных са шкоднымі галінамі прамысловасьці, дзе праца жанчын, у прынцыпе, забароненая (а навучаньне — зразумела ж, не), аднак, паколькі такія абмежаваньні Міністэрствам адукацыі нерэглямэнтаваныя, адзіным сродкам уплыву на дзявочую рашучасьць зьяўляецца гутарка. Што тычыцца колькасьці заяваў наогул, дык іх сёлета на 350 больш, чым летась (конкурс складае 2,3 на месца). Найпрэстыжнымі ў гэтым годзе зьяўляюцца такія спэцыяльнасьці як «эканоміка і кіраваньне прадпрыемствам», «бухгальтарскі ўлік і аўдыт» і «выдавецкая справа». Новая, сёлета адкрытая спэцыяльнасьць, «прафэсійнае навучаньне», што будзе рыхтаваць інжынэраў-пэдагогаў, вялікае папулярнасьці пакуль што не атрымала — магчыма, з-за адсутнасьці рэклямы. Паводле няпоўных папярэдніх зьвестак (іспыты ў БДТУ толькі пачаліся) беларускую мову абралі каля трэці абітурыентаў.

Адзінай навучальнай установай, з усіх наведаных, дзе «беларускамоўныя» абітурыенты ў невялікай большасьці, зьяўляецца Менскі мэдычны інстытут. Залежыць гэта, мабыць, ад пазыцыі прыёмнай камісіі. Конкурс жа ў мэдінстытуце большае год ад году.

У Лінгвістычным унівэрсытэце на белмове летась пісалі 48% абітурыентаў, але ў гэтым годзе пакуль зьвестак няма.

Тэндэнцыі відавочныя і красамоўныя. Думаецца, што выбар мовы залежыць яшчэ й ад таго, наколькі лягічныя тэксты на той ці іншай мове прапануюцца. Летась беларуская дыктоўка моцна здыскрэдытавала сябе: Міністэрства адукацыі дало тэкст зь Якуба Коласа і напісала ў тэксьце, якім кіраваліся для праверкі прыёмныя камісіі, часьціцу «не» зь нейкім дзеепрыметнікам разам, тады як у акадэмічным зборы твораў Колас яе піша асобна. Выйшла шмат блытаніны. Хто з абітурыентаў напісаў асобна, таму спачатку залічылі ў памылку, тады яны папрыносілі зборы твораў і падалі апэляцыі, і тыя апэляцыі мусілі задаволіць. Усім гэта каштавала шмат нэрваў. ■

## дзе варта быць



Прыхільнікам жывой паэзіі варта быць 20 ліпеня а 18-й гадзіне ў парку Янкі Купалы, дзе паэт Славамір Адамовіч ладзіць літаратурныя чытаньні-фаервэрк «Апошні званок». Як нам сказаў Адамовіч, фаервэрк абяцае быць як у простым, так і ў фігуральным сэнсе. Пад выбухі пэтардаў самы экстравагантны прадстаўнік сучаснага беларускага Парнасу прапануе шаноўнай публіцы і даўно вядомыя творы, і вершы, якія толькі зьявіліся з-пад ягонага пяра. Можна будзе купіць апошні зборнік паэта «Плавільшчыкі расы». На «разагрэве» выступіць бард Зьміцер Бартосік.



А ў Віцебску ў гэты ж самы дзень на пляцоўцы Летняга амфітэатру адбудзецца канцэрт «Беларусь — гасьцінны дом» (назва да чаго парнаграфічная!). Нашы музыкі й сьпевакі — мужчынскі хор «Унія», вакальны ансамбаль «Чысты голас», гурт «Песьняры», эстрадны аркестар Міхаіла Фінбэрга ды інш. будуць сьпяваць з душою, як гэта заўсёды было на канцэрце, які ўсе гэтыя гады выліваўся ў патрыятычную дэманстрацыю. Ці ўдасца сёлета некаму пранесьці туды нацыянальныя сьцягі? ■



# ПРА «ЛЁГКІЯ» НАРКОТЫКІ

Вадзім КАРЦАЎ



Неяк я па справах фірмы быў у замежнай камандыроўцы ў горадзе Азове Растоўскае вобласьці Расеі.

Уражаньні? Нармалёва. Для Расеі нармалёва.

Фірмы, дзеля спраўджваньня плацёжаздольнасьці якое я прыехаў, не існавала ў прыродзе. Дабрадушныя абарыгены за невялікую плату (як у менскім «Мінску») прадставілі апартамэнты з выгодамі ў двары. Мёд, рыба, садавіна, арэхі, саматужны хлеб прадаваліся проста на вуліцы (праўда, па цэнах менскага «Прэстан-маркету»). Паветра — 30°С, вада — 20°С.

Карацей, затэлефанаваўшы дырэктару, я застаўся «для вывучэньня магчымасьцяў наладжваньня дзелавых кантактаў».

Сярод дзівосаў, зь якімі ён сутыкаецца ў цёплых расейскіх рэгіёнах, эўрапейца, калі ён не з Галандыі, найбольш кранае амаль вольны продаж «лёгкіх» наркотыкаў.

Днём і ноччу «касякі», «караблі» й цэлыя «бабульчыкі» марыхуаны можна набыць танна й амаль бяз боязі быць затрыманым.

Ахоўнікі парадку ўжо проста не зважаюць на гэткія «дробязі» як нарказьдзелка: ці то яны купленыя дылерамі, ці то рэальна ацэньваюць свае сілы й ня кідаюцца, як той Дон Кіхот, зь дзідаю на вятрак.

Малое й старое, сеўшы на кукішкі, «дзьмуць» пад навесамі, ствараючы ў вечаровым паветры правінцыйных вулак куродым зь непаўторным пахам бярозавых венікаў.

Першая выснова — памылковая — пра татальную наркаманію. Яна касуецца па меры абрастаньня знаёмствамі зь месцічамі.

Аказваецца — і гэта другая памылковая выснова — што «траўку» паляць ня ўсе, а пераважна беспрацоўныя, людзі бяз сталага даходу, лайдакі — агулам прадстаўнікі ніжэйшых сацыяльных групаў; паляць ад бядоты й безвыходнасьці.

Чым жа ж няслушная другая выснова? А тым, і іншыя тузэмцы пра гэта кажуць, што, як правіла, не галеча прымушае шукаць паратунку ў «кумары», а наадварот: абпалены горкім дымам канопляў мозг рэгулярна супакойваецца ў «нірване» і ўжо не пускае свайго гаспадара вышэй па жыцьцёвай лесьвіцы.

Ці ж можа добрая праца, нармалёвая сям'я «перці» гэтаксама, як жменька дрэні са сьвежага ўраджаю Чуйскай даліны?

Навошта «рваць», пяцца з усяе моцы, калі для шчасьця дастаткова крыху ежы ды кішэня «шмалі»?

Настоящему индейцу*
Надо только одного.
Да и этого немного,
Да почти что ничего.
Если ты, чувак, индеец,
Ты найдёшь себе оттяг.
Настоящему индейцу
Завсегда везде ништяк.

**«Індзеец» — той, хто стала паліць марыхуану (В. К.)*

Гэтак сьпяваў Фёдар Чысьцякоў, саліст вядомага некалі піцерскага рок-гурта «Ноль». Сьпяваў, пакуль наркотыкі не давялі яго да дурдому, творчага заняпаду й забыцьця.

Ён ведаў, пра што пяе. Гэтага ня ведаюць ці ня хочуць уцяміць безадказныя асобы, палітыкі, якія, падтасоўваючы дэмакратычныя паняцьці, выступаюць за легалізацыю курыцельных наркотыкаў.

Ужываньне марыхуаны радыкальна й дэструктыўна зьмяняе сыстэму каштоўнасьцяў чалавека. Зь першых цыгарэтаў ён як асоба згублены для грамадзтва й адкрыты да дэградацыі.

Зь цягам часу ў яго зьнікае натуральная боязь за ўласныя жыцьцё й здароўе. А тады ўжо можна ўсё: катацца на «калёсах», «пудрыцца», «шырацца»...

Няма лёгкіх наркотыкаў — ёсьць легкадумныя палітыкі. ■

# КЕНЭДЫ І КУЧМА

Андрэй ДЫНЬКО

### ДЖОН ДЖОН КЕНЭДЫ ЗАЙМАЎСЯ ПРЭСАЙ, А НЕ ПАЛІТЫКАЙ

«Джон Джон» Кенэды, сын амэрыканскага прэзыдэнта Джона Кенэды, пляменьнік прэтэндэнта на прэзыдэнцкі пасад Роберта Кенэды і галава гэтай амэрыканскай, як кажуць, каралеўскай дынастыі, зьнік недзе ў водах Атлянтычнага акіяну. Ён, жонка і ягоная стрыечная сястра ляцелі на вясельле сваяка. Нешта адказала ў самалёце. Біл і Хілары Клінтан сказалі, што моляцца за Кенэды — у нас бы сям'і пацярпелых аказалі яшчэ й матэрыяльную дапамогу, то бок гарвыканкам труны б купіў. Калі б у нас быў акіян і лёталі прыватнымі самалётамі, бадай.

«Фатальныя лёсы», «містычная драма сям'і», «амэрыканская трагедыя» — такія загалоўкі нядзельных газэт ва ўсім сьвеце. Другі дзядзька Джона-малодшага, сэнатар Эдвард Кенэды, так і не рашыўся выставіць сваю кандыдатуру на прэзыдэнта, напалоханы так ніколі да канца й не расьсьледаванымі забойствамі братоў.

Джон Джон наўпрост у палітыку не пайшоў. Ён вывучыўся на юрыста, а справу ў жыцьці выбраў такую — заснаваў ілюстраваны палітычны часопіс GEORGE, аўдыторыя і ўплывы якога сягаюць за межы ЗША. Чыстая палітыка на Захадзе перастала быць найбольш важнай і моднай справай. Нават у нас пры фактычна дзяржаўнай дыктатуры і абмежаванай прыватнай ініцыятыве кіраўнікі буйных газэт зарабляюць (прынамсі, афіцыйна) пару разоў болей за міністраў, а жывуць нашмат больш пачэсна, чым дзяржаўныя кіраўнікі. Гэтак жа й простыя журналісты зарабляюць болей, чым чыноўнікі нізкага рангу, а да таго ж могуць падзарабляць, што на дзяржаўнай службе забаронена. Раней праца ў газэце ці тэлебачаньні лічылася трохі другаснай і грэнаватай, і моладзь з арыстакратычных сем'яў туды не йшла. Сапраўды, на журналістаў, як і на дактароў, часта наракаюць, што яны цынікі. Згадваюць таксама іхную павярхоўнасьць.

Містычная повязь кляну Кенэды зь Беларусяй у тым, што Лі Харві Освальда, забойцу прэзыдэнта Кенэды, расейскай мове вучыў тады яшчэ малады фізык Станіслаў Шушкевіч — пра гэта цяпер піша раман Валерка Булгакаў.

Француская газэта «Парыз'ен» у суботнім нумары згадвае іншую страшную авіякатастрофу, тую, што адбылася ў 1997 годзе ля ўзьбярэжжа Злучаных Штатаў мо ў якой сотні кілямэтраў ад месца зьнікненьня Кенэды. Тады загінула 230 чалавек. Аказалася, як цяпер расьсьледавалі, што «Боінг» кампаніі BWA разарвала на кавалкі з-за няспраўнасьці ў паліўных баках, якія знаходзіцца ў пярэдняй частцы самалёту. Прычым кампанія «Боінг» быццам бы ведала пра недасканаласьць гэтай сыстэмы паветранай машыны гэтага тыпу здаўна, яшчэ гадоў 30 таму, але маўчала, каб ня зьбіць сабе пакупнікоў. Цяпер гэта выйшла на паверхню. Асабліва абураюцца ў Францыі — тады на «Боінгу» ляцела шмат французаў. Праўда, сёй-той сумняваецца ў праўдзівасьці гэтага, што гэта францускія канкурэнты «Боінгу», вытворцы аэробусаў і «Канкордаў» імкнуцца здыскрэдытаваць канкурэнтаў. Будзем чакаць, што высьняць афіцыйнае расьсьледаваньне. Можа, і добра, што ў «Белавія» няма грошай на закупы патрыманых «Боінгаў», на якія перайшла большасьць авіякампаніяў краінаў былога Саюзу — быццам бы ТУ-134, хоць і нягеглыя, але больш надзейныя. Дарэчы, самалёты «Белавія» яшчэ ніколі ня падалі. Праўда, кампанія існуе нядаўна і лётае мала.

### НЕ ЯК ДЗЯДЗЬКА, ДЫК ЯК СТРЫЙ — АЛЕ КУЧМА ХОЧА САМ ВЕСЬЦІ ЎКРАІНУ Ў XXI СТАГОДЗЬДЗЕ

У Крыме ў верасьні мае адбыцца другая сустрэча кіраўнікоў Цэнтральнай Эўропы. Першая была ў Вільні ў 1997 годзе на запрашэньне прэзыдэнта Бразаўскаса. Лукашэнка тады ўдзельнічаў у якасьці госьця, запрошанага прэзыдэнтам Кучмам і нарабіў шмат скандалу. Бразаўскас зьбіраў калег, каб развітацца, а Кучма, наадварот, хоча падаць гэтую сустрэчу як пачасьць сабе напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Бо хваліцца Кучму няма чым. Украінская эканоміка хутка ўся стане нелегальнаю. Украінская дзяржава не ўсталявалася і залежыць ад расейскіх алігархаў. (Цяпер яны, дарэчы, сталі цягацца за Мікалаеўскі гліназёмны завод, які перапрацоўвае гвінэйскія баксіты й пастаўляе сыравіну на Брацкі й Таджыцкі алюміневыя заводы. Кучма зьняў дырэктара гэтага заводу і прызначыў стаўленіка расейскай прамыслова-фінансавай імпэрыі TWG, якая належыць Ляву Чорнаму. Але на той самы завод прэтэндуе таксама расейская група «Сібірскі алюміній»). Пра Кучму кажуць, што ён — ня тое, што Краўчук, а за ўладу будзе трымацца зубамі. Цяпер Кучма з усіх сілаў хоча выставіць супраць сябе як мага болей канкурэнтаў, каб раздрабіць іхныя сілы. Таму ён падпольна фінансуе выбарчыя кампаніі іншых кандыдатаў, а таксама робіць ім рэкляму. Напрыклад, усе газэты й тэлеканалы, што падтрымліваюць Кучму, пішуць, што найбольшы рэйтынг сярод кандыдатаў мае шалёная лідэрка так званай «прагрэсіўна-сацыялістычнай партыі» Наталя Вітрэнка, Лімонаў у спадніцы, сапраўдная гераіня «Энэіды навыварат». Навошта гэта робіцца? Бо Кучма знае, што калі ён у другі тур выйдзе разам з Марозам, ці Марчуком, ці Сыманенкам, дык найхутчэй што прайграе, а калі з заведама адыёзнай фігурай, дык мусіць будзе выйграць. Каб вы жылі ва Ўкраіне, дык мабыць аддалі б галасы за Яўгена Марчука, былога кіраўніка ўкраінскай службы бясьпекі і прэм'ер-міністра. Марчука падтрымліваюць сярэдняга багацьця прадпрымальнікі, украінская эміграцыя, нацыяналісты (Кангрэс украінскіх нацыяналістаў Яраславы Стэцько, найстаршага дэпутата ўкраінскага парляманту, дачкі лідэра ОУН ваенных часоў, і Украінская рэспубліканская партыя былога палітвязьня Ляўка Лук'яненкі, а таксама драбнейшыя партыі). Ясна, што яго любяць і супрацоўнікі Службы бясьпекі, і вайсковыя. Украінскія нацыяналісты традыцыйна ставілі на падтрымку вайскоўцаў і сілавых структураў, імкнуліся вылучаць ад сябе ў парлямэнт найбольш афіцэраў і лабіраваць інтарэсы ваенных і міліцыянтаў у парлямэнце і ўрадзе. Не кляйміць іх, а абараняць і тым самым прыцягваць на свой бок. Здаецца, гэтая тактыка дае плён.

«Кучма» дарэчы — гэта такая высокая шапка з барана футрам наверх. Або, зьменшана — кучомка. Так, у Коласа ў «Новай зямлі» Кастусь носіць кучомку. Фігуральна так сталі называць таксама скудлачаныя валасы або густую карону дрэва. На кашлатага чалавека недзе яшчэ могуць сказаць «кучматы».

У Кучмы на галаве няма чаго калмаціць і, такое ўражаньне, ніколі не было чаго. Чалавек, які не адпавядае свайму вымоўнаму прозьвішчу, заўсёды выклікае нейкі недавер — нібы ён носіць сваё прозьвішча не па праве, бы ён украў у некага ягоную ідэнтычнасьць. «Мядзьведзь» у нашым уяўленьні мусіць быць здаравілам, а «Ёлуп» ці «Пётух» наўрад ці наважацца балятавацца ў прэзыдэнты. ■

вескі зь Літвы

## Помнік Каралю



Летась на старых віленскіх праваслаўных могілках на Ліпаўцы зьявіўся яшчэ адзін грудок. Тут пахавалі Лявона Караля, які памёр 14 ліпеня 1998 году.

Калі гавораць пра віленскую беларускую інтэлігенцыю, якой да вайны ў горадзе былі тысячы, а пасьля вайны засталіся адзінкі — дык гэта, у тым ліку, і пра Караля. Астатніх за Сталіна пабілі ды выслалі ў ГУЛАГ, адкуль вярнулася іх хіба што зь дзясятак. Кароль, праўда, у Сібір не патрапіў, затое прымаў пасьля тых рэдкіх вяртанцаў ды памагаў ім асвоіцца ў новым жыцьці. Яны, тое пакаленьне, так і ня здолелі ўявіць сябе нейкімі нацменамі ў родным горадзе. Аднак лік іхны няўхільна зьмяншаецца з гадамі. Паўміралі толькі ў дзевяностыя такія носьбіты віленскае беларушчыны як Зоська Верас, Юрка і Лявон Луцкевічы, а вось цяпер і Лявон Кароль.

Ягоны бацька, Сымон Кароль, быў сябрам Аляксандра Ўласава, Антона Луцкевіча ды Браніслава Тарашкевіча. Гэтых людзей Лявон ведаў з маленства, яны гасьцявалі ў іхным доме ў Радашкавічах, дзе бацька выкладаў у беларускай гімназіі хімію да сьпевы.

Пасьля сям'я Каралёў перабралася ў Вільню, дзе Лявон скончыў Беларускую гімназію й пражыў усё наступнае жыцьцё. Нягледзячы на перасьлед і падазронасьць да беларусаў у савецкай Літве, ён здолеў скончыць хімфак Віленскага ўнівэрсытэту і стаў выдатным хімікам-вынаходнікам, ачоліў навуковы аддзел у НДІ электраграфіі. Яму належаць дзясяткі адкрыцьцяў, шмат навуковых публікацыяў. Той самы тонэр для ксэраксаў ды кампутарных друкарак, якім нядаўна карысталася шостая частка сьвету, быў вынайдзены Лявонам Каралём. Некалі на тых самых ксэраксах капіявалі й дэфіцытную кнігу сп. Караля «Посьпехі электраграфіі»...

Пасьля выхаду на пэнсію Лявон Кароль увесь час прысьвяціў беларускім справам — удзелу ў суполках, сьпевам у хоры, працы ў газэтах. Зьбіраўся скласьці мэмуары, але не пасьпеў.

Сёлета 15 ліпеня на Ліпаўцы быў урачыста адкрыты помнік Лявону Каралю. Аўтар — вядомы віленскі скульптар Эдвард Падбярэзскі. На высьвячэньні многія людзі прамаўлялі, гутарылі з помнікам, нібы з жывым чалавекам.

## Канцы з канцамі

У нас любяць паразважаць пра тое, як дорага жыць у суседняй Літве. Яно й сапраўды, ня танна. Аднак жа і зарабляюць там болей, калі глядзець на ўсіх літоўцаў, а не на кучку багацееў і на ўвесь астатні народ. Гэтак сёньня на кожнага чалавека ў сям'і (з улікам малых) там прыпадае ў сярэднім 422 Lt даходу ў месяц ($1 = 4 літы). У чыстым выглядзе гэтага хапае, каб зводзіць канцы з канцамі. Прычым даход у горадзе і вёсцы розны — адпаведна 465 і 330 Lt.

А цяпер — як гэтыя грошы сярэдні сямейнік траціць. Амаль палову — 193 Lt ён праядае. 70,8 Lt аддае за кватэру. На 26 Lt купляе адзеньне і абутак, на транспарт і сувязь выдаткоўвае 25,2 Lt.

Алкаголю і тытуню адзін сярэдні літоўскі сямейнік за месяц набывае на 17,3 Lt (на крамную паўлітру гарэлкі ня хопіць, затое можна ўзяць дзьве нелегальныя пляшкі зь Беларусі або дзьве 0,7 добрага імпартаванага віна. Калі курыш, дык за тыя грошы купіш 15 пачкоў «Прымы» або пяць з паловай «LM»).

На адпачынак і культуру пайшло 14,8 Lt, на адукацыю — 2,4.

## 10 гадоў ТБК

Да дзесяцігодзьдзя Таварыства Беларускай Культуры ў Літве ў Вільні 10 ліпеня была наладжаная ўрачыстая імпрэза.

ТБК займае радыкальную пазыцыю ў дачыненьні да афіцыйнае Беларусі, таму запрашае на свае імпрэзы найперш апазыцыйных дзеячоў. Гэтак апошнім часам літоўскае ТБК рэгулярна прымае ў сябе Зянона Пазьняка. Пагаворваюць нават, што Пазьняк рыхтуецца да пераезду з Варшавы ў Вільню. А гэтым разам ён прыбыў разам з жонкаю. Ва ўрачыстасьцях, апроч З.Пазьняка, узялі ўдзел палітык Сямён Шарэцкі, паэт Генадзь Бураўкін, гісторык Анатоль Грыцкевіч. Прысутнічалі таксама лідэр фракцыі цэнтрыстаў літоўскага Сэйму сп. Озалас і начальнік Дэпартамэнту ў справах нацменшасьцяў сп. Мотузас. Складаецца ўражаньне, што літоўскія цэнтрысты імкнуцца перахапіць апеку над беларускай апазыцыяй у партыі кансэрватараў В.Ландсбэргіса.

Пасьля афіцыйнай часткі была пачостка. Выглядала на сустрэчу вялікай сям'і: жонкі, дзеці, поўныя сталы. Найбольш увагі надавалася, вядома ж, З.Пазьняку й С.Шарэцкаму. Меўся прыехаць яшчэ й старшыня Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі, але яму не далі візы.

С.Х.

# МІФ ПРА НЕЗАМЕННАСЬЦЬ КІРАЎНІКА

*Працяг са старонкі 1.*

А ўявіце сабе, што кожнага дня вы бачылі б на тэлеэкране рэальныя гутаркі прэтэндэнтаў — Пазьняка, Чыгіра, Шушкевіча, Ганчара, Захаранкі, Вячоркі... Або нават — Гайдукевіча. Дастаткова было б тыдня, каб сацыялягічныя апытаньні прынесьлі зусім іншы вынік. Ні пра якія 40, або 50, або 60 працэнтаў падтрымкі Лукашэнку не было б і размовы. Міф разваліўся б на вачах. Таму сёньняшні рэйтынг ППРБ моцна нагадвае рэйтынг тэлевізійнага часу, які выкарыстоўваюць беларускія палітыкі. І варта яшчэ дзівіцца, што Чыгір і Пазьняк, седзячы ў глухім інфармацыйным карцэры, умудраюцца набіраць па 4-5 працэнтаў народнай падтрымкі.

Сёньня мы паспрабуем «дапоўніць» БТ сваёй «перадачай» — што праўда, у друкаваным, газэтным выглядзе. Але спадзяемся, у нас атрымаецца пераканаўчая «карцінка», якая разьвянчае міф пра незаменнасьць аднаго асобна ўзятага дырэктара калгаса ў лёсе адной асобна ўзятай 10-мільённай эўрапейскай краіны.

Такім чынам, уключаем тэлевізар. На пытаньні карэспандэнта нашай праграмы адказваюць палітыкі — канкурэнты А.Лукашэнкі. Варта згадаць, што Зянон Пазьняк адмовіўся адказваць на нашыя пытаньні, спаслаўшыся на надзвычайную занятасьць у гэтыя дні, Сямён Шарэцкі заявіў, што не зьбіраецца балятавацца ў прэзыдэнты, а Станіслаў Шушкевіч гэтымі днямі знаходзіцца ў Вашынгтоне.

Дарэчы, у нашым «дадатку да БТ» вы зможаце «паглядзець» і іншыя праграмы, якія вас цікавяць. Пішыце, і нашыя «апэратары» з «рэжысэрамі» пакажуць вам тое, што вы хацелі б паглядзець. ■

***1. Ці ёсьць у А.Лукашэнкі рэальныя канкурэнты?***

***2. Што трэба зрабіць прэтэндэнтам на пасаду прэзыдэнта, каб перамагчы на выбарах?***

***3. Што б Вы зрабілі ў першую чаргу, калі б сталі прэзыдэнтам Беларусі?***



## Сяргей АНТОНЧЫК,
***лідэр рабочага руху:***

1. Такія канкурэнты ёсьць: у Беларусі ж, калі не памыляюся, дзесьці 2300 калгасаў і саўгасаў, чые старшыні маглі б паспаборнічаць з Лукашэнкам, бо ўзровень у іх аднолькавы зь ім. Калі ж гаварыць сур'ёзна, дык у нас насамрэч ёсьць дзясяткі вельмі добрых арганізатараў, кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў нацыянальнага ўзроўню. У рэспубліцы шмат дастаткова вядомых палітыкаў, нават кіраўнік прафсаюзу — любога: рэгіянальнага, афіцыйнага, незалежнага — будзе лепшы за Лукашэнку. Да таго ж, у нас багата людзей «незасьвечаных»: разумных, здольных, адказных. Я паўтаруся: любы чалавек будзе лепшы за яго, бо ніхто ня будзе сварыцца з усімі суседзямі, парушаць эканамічныя, палітычныя законы так, як гэта робіць Лукашэнка.

2. Трэба выйсьці на тэлебачаньне, выступаць праз іншыя СМІ. І неабходна мець вельмі моцную каманду прафсаюзнікаў. Узяць, напрыклад, Валэнсу. У яго ж усяго 8 класаў адукацыі, і вялікую ролю ў яго абраньні адыграла каманда. Думаю, наступнага прэзыдэнта вылучыць лібэральная намэнклатура. Такімі рэальнымі прэтэндэнтамі на пасаду Прэзыдэнта зьяўляюцца сёньня Чыгір, Лявонаў. Карацей, хто-небудзь з намэнклятуры, бо краіна ж савецкая і народ не падтрымае крайнюю дэмакратычную апазыцыю.

3. Гэта пытаньне з галіны фантастыкі. Калі ж гэта сабе ўявіць, дык, у першую чаргу, я б перапыніў рэпрэсіі, што чыніць Лукашэнка, і ўзбудзіў бы крымінальныя справы супраць кожнага, хто парушаў закон, седзячы ў дзяржаўным крэсьле. А ў сфэры эканомікі няма чаго выдумляць, у нас ёсьць добрыя прыклады разьвіцьця нашых суседзяў: Польшчы, Літвы, Латвіі. Асноўнае — гэта палітычная і эканамічная скіраванасьць на Захад.



## Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ,
***лідэр Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі:***

1. Я заўжды казаў, што думка аб тым, нібы 10-мільённы народ спарадзіў толькі аднаго геніяльнага палітыка — поўнае глупства. Патэнцыял беларусаў вельмі вялікі. Прычынай жа наяўнай нястачы рэальных канкурэнтаў Лукашэнку зьяўляецца адсутнасьць доступу да СМІ, магчымасьці сустрэчаў з рабочымі, студэнцкай моладзьдзю і г.д. Лідэраў-прафэсіяналаў у нас шмат, хіба толькі бракуе лідэра экстрэмальнага, лідэра вуліцы. Людзей, здольных кіраваць, аналізаваць, прыймаць рашэньні, у нас больш, чым дастаткова. У нашай партыі, да прыкладу, 6 экс-міністраў. Чым яны не рэальныя кандыдаты і канкурэнты Лукашэнку? Справа палягае ў тым, што адзін грае ў шахматы як інтэлектуал, а другі бярэ дошку і б'е ёю свайго праціўніка па галаве.

2. Па-першае, трэба стварыць нармальнае заканадаўства аб выбарах, паводле эўрастандартаў, а каб выключыць магчымасьць фальсыфікацыі, трэба, каб апазыцыя магла кантраляваць выбарчы працэс на ўсіх узроўнях, каб былі незалежныя назіральнікі на ўсіх участках. Ну і, ведама, неабходна забясьпечыць доступ да ўсіх сродкаў масавае інфармацыі ў роўным памеры для ўсіх кандыдатаў.

3. Самае першае — забясьпечыў бы поўную свабоду інфармацыі для насельніцтва, каб дапамагчы народу структурызавацца, вызначыцца ў сваіх палітычных поглядах.

Да таго ж, я б зрабіў рэальнай вярхоўнасьць закону, аднавіў бы выбарнасьць мясцовых органаў улады, мэраў гарадоў, у прыватнасьці, правёў бы дэмакратычныя зьмены, разьвіваў бы культуру. Абавязкова б вярнуў нацыянальнай мове ейнае пачэснае месца. Ну, і галоўнае — стварэньне эфэктыўнай лібэральна-рынкавай эканомікі, пры якой бы чыноўнікі мелі б мінімум улады, а дзяржава выконвала 4 функцыі: гарантавала б пражыцьцёвы мінімум, права на атрыманьне мэдычнай дапамогі, адукацыі і пэнсіяў.



## Вінцук ВЯЧОРКА,
***лідэр Народнага Фронту:***

1. Канкурэнтаў колькі заўгодна, чалавек пяць-сем, прынамсі, я магу назваць. І рэальнымі яны стануцца тады, калі будзе існаваць рэальная інфармацыйная прастора.

2. Па-першае, трэба стаць вядомым праз учынкі, а па-другое — праз сродкі масавай інфармацыі.

3. Я б адразу адмяніў сам інстытут прэзыдэнцтва і зрабіў бы Беларусь парлямэнцкай рэспублікай.

## Віктар ІВАШКЕВІЧ,
***лідэр Свабодных прафсаюзаў***

1. Канкурэнтаў Лукашэнку ў Беларусі вельмі шмат, хоць адбаўляй. Прынамсі, тых, якія сябе



лічаць такімі і аб гэтым заяўляюць на кожным кроку. А рэальных канкурэнтаў у барацьбе за пасаду Прэзыдэнта няма, таму што не існуе яшчэ рэальнай сытуацыі выбараў.

2. Галоўнае — максымальна ўдзельнічаць у заваяваньні ўплыву сярод выбаршчыкаў. Можа здарыцца, што нашмат мацнейшым будзе той, хто зараз рыхтуе страйкі, чым тыя, хто вядзе бясплённыя перамовы з заходнімі дыпляматамі і палітыкамі.

3. Па-першае, вярну краіне ейны сапраўдны сьцяг і герб, бо гэта абавязковыя мэтафізічныя ўмовы посьпеху. Усё ж астатняе — справа тактыкі. Я асабіста не выключаю як кандыдат на пасаду, а мае далейшыя дзеяньні залежаць ад той сытуацыі, што складзецца напярэдадні выбараў. Магчыма такое, што некалькі палітыкаў, якія спрачаюцца зараз паміж сабою, хто зь іх лепшы, падтрымаюць некага трэцяга, які б іх задавальняў як галава краіны. Аднак усе гэтыя перастаноўкі сярод кандыдатаў яшчэ наперадзе.

## Сяргей КАЛЯКІН,
***старшыня Партыі Камуністаў Беларускай:***



1. Канкурэнтаў вельмі шмат. Калі ў іх будзе вольны доступ да СМІ, праз якія яны змогуць давесьці народу, да чаго давёў Лукашэнка краіну і якія існуюць яшчэ альтэрнатывы разьвіцьця, Лукашэнка выбары прайграе.

2. Неабходна стварыць моцную каманду палітыкаў і прагматыкаў, пайсьці да народу, каб растлумачыць сваю праграму, але зноў-ткі, трэба забясьпечыць роўны доступ да СМІ, стварыць нармальныя ўмовы для кожнага з кандыдатаў. Бяз гэтага выбары — поўная прафанацыя. Паставяць аднаго чалавека за трыбуну з паперкі чытаць, пакажуць па тэлевізіі, і народ за яго прагаласуе. А што яму застанецца рабіць?

3. Я б адразу адмяніў «дазвольную» сыстэму, калі ўсё вырашае не закон, а чыноўнік, дробны ці буйны. Ад іх рашэньня залежыць усё, і яны гэтым карыстаюцца і паразытуюць. Асноўным зьяўляецца нармальная дзейнасьць законаў.



## Тацяна ПРОЦЬКА,
***старшыня Беларускага Гэльсынскага Камітэту:***

1. Ёсьць два аспэкты гэтага пытаньня. Па-першае, трэба вызначыцца, што такое Лукашэнка, хто ён. Ён чалавек, які прапагандуе рэальныя погляды на жыцьцё, свае чалавечыя погляды. Ён пазбавіў краіну закону, які зьяўляецца галоўным рэгулятывам існаваньня грамадзтва, і любы палітык, які разумее і ўсьведамляе важкасьць закону, яго функцыі, можа зрабіцца рэальным канкурэнтам Лукашэнку ў барацьбе. З другога боку, грамадзтва нашае засталося на пазыцыях дзяржаўнай уласнасьці, а ўся тая дэмакратыя, якой мы захапляемся і ставім сабе ў прыклад, заснаваная на традыцыях прыватнай уласнасьці. І таму з рэальным дэмакратычным канкурэнтам з гэтага пункту гледжаньня ў нас цяжэй. Наступнага прэзыдэнта, на маю думку, вылучыць намэнклятура, што зараз прыбліжаная да Лукашэнкі, у мінулым камуністычная. Я толькі малю Бога, каб наступнік гэты, у адрозьненьне ад Лукашэнкі, разумеў, якую вялікую каштоўнасьць уяўляе сабой нацыянальная дзяржава.

2. Галоўнае — заручыцца падтрымкай дзяржапарату, але як гэта зрабіць, я вам сказаць не магу, бо тады Лукашэнка прыме адпаведныя захады. Цяперашні Прэзыдэнт добра разумее, наколькі небясьпечныя тыя рэпрэсіі, што ён праводзіць. Трэба рабіць стаўку на магутны дырэктарскі і старшынскі корпус, бо толькі яго прадстаўнікі здольныя сёньня на сапраўды рэвалюцыйныя дзеяньні.

3. Я б адразу вывучыла, як працуе сыстэма кіраваньня, чаго вартыя тыя ці іншыя чыноўнікі, хто зь іх лепшы, хто горшы. Я б аддзяліла збожжа ад зеліва. У філязофскім жа пляне я б вярнула беларускаму народу маральнасьць і закон, бо зараз мы жывем па-за іх межамі.

## Юлія ЧЫГІР
***адказвае за свайго зьняволенага мужа Міхаіла Чыгіра:***

1. Такіх людзей шмат, але большасьць зь іх, на жаль, мала вядомая сёньня насельніцтву з прычыны адсутнасьці доступу да сродкаў масавай інфармацыі.

2. Кандыдаты на пасаду Прэзыдэнта мусяць прытрымлівацца агульнапрынятай перадвыбарчай стратэгіі: правядзеньне рэклямнай кампаніі, выступы праз СМІ, сустрэчы з выбарцамі, стварэньне моцнай каманды.



3. Міхаіл Чыгір, калі б стаўся Прэзыдэнтам, у першую чаргу правёў бы канстытуцыйную рэформу: была б абмежаваная ўлада самога кіраўніка дзяржавы, былі б перагледжаныя паўнамоцтвы кабінэту міністраў, парляманту, была б рэфармаваная сыстэма «вэртыкалі». У пляне эканомікі мой муж, наколькі я ведаю, добра разумее, што ў нашай складанай сытуацыі без замежнай дапамогі не абысьціся. А Захад будзе весьці дыялёг толькі з тым чалавекам, чыя фігура там вядомая з добрага боку. Міхаіл Чыгір зрабіў бы ўсё, каб стварыць такую дзяржаву, дзе можна было б нармальна жыць, працаваць яму, нам, нашым дзецям і пасьля ягонага выхаду з пасады Прэзыдэнта. Каб ягоны наступнік мог працягваць справу, пачатую ім.

Апытваў Анатоль Прасаловіч

*Працяг са старонкі 1.*

*У нетрах родаў узьнікаюць гіганцкія транснацыянальныя карпарацыі і неўміручая мафія, найвялікшыя народныя эпасы і пляяды патомных геніяў; праз род, і ніяк інакш, разбудоўваліся ўся аграмада Старога Запавету й падваліны цывілізацыяў Усходу ды Захаду. Кожны род мусіць мець свайго пачынальніка; поўную скарбаў, зьдзяйсьненьняў і тытуляванае геральдыкі Кнігу Быцьця; трагедыю, што разыгралася недзе ў сховах даўняга часу; і, канечне, свой наканаваны рок: сорак гадоў блуканьня, стогадовую адзіноту ці тысячагодзьдзе змаганьня за волю.*

*У Беларусі немагчыма ўявіць сабе родавую зьяву, магутнейшую за БНФ; для нашага грамадзтва ўвогуле ўсялякія буйныя рэчы на ўзор клянаў, тэйпаў ці «сем'яў» ёсьць унікальнымі і, як стрэлы зь пісталету, адзінкавымі. Сёньняшняя кіраўнічая намэнклятура ў спробах укараніцца хоць як абмяжоўваецца гадаваньнем калідорных і кабінэтных зямляцтваў — шклоўскіх, трактаразаводзкіх ці саўмінаўскіх, — якія зь цягам часу, выціснутыя навалай чарговых супернікаў, разбрыдаюцца ў пошуках ціхага дамка з садам дзе-небудзь пад Бялынічамі, дзе можна было б спакойна й без нагляду кантрольных ды вэртыкальных аддаць канцы. Пагатоў, толькі гіганцкая дыяспара вайсковаў і гэбістаў, выгнаных з усяе Эўропы, маскоўскіх, уральскіх і астатніх далёкаўсходніх кадраў, спраджэньне Імпэрыі ў камуфляжы, хакі й цывільным, страшная сваёй колькасьцю й падрыхтаваная для падаўленьня й зьнішчэньня ўсяго жывога — мае ў сабе непарушную каставую аснову. І менавіта яе мазгавыя цэнтры, выдатна дасьведчаныя ў магчымасьцях генэтыкі й геапалітычных сілаў, як ніхто, жахаюцца нацыянальных глыбіняў.*

Павал СЕВЯРЫНЕЦ

# РОД ФРОНТУ



Насамрэч, нашая вотчына, нашая фундамэнтальная (паняцьце «мэнтальнасьць» так і скразіць) Паўночна-Заходняя Беларусь, якая пужае расейскі генштаб, яшчэ трымае сям-там спрадвечны дух Вялікага Княства, а дзе-ніdзе й душок пабытовага нацыяналізму: дастаткова ўваткнуць іглу цыркулю ў Вільню й адкроіць паўкруг Беларусі разорам да Полацку, забіраючы Менск, Слуцак, Нясьвіж, усю Гарадзеншчыну й паўночную грыву Берасьцейшчыны па самую Белавескую пушчу, каб атрымаць арэал, які на Захадзе адносяць да вобласьці расьсяленьня паўночнаэўрапеоідные расы, у Маскве акрэсьліваюць як небясьпечны агмень сэпаратызму, а ў нас лічаць зонай уплыву Фронту з павальным галасаваньнем за Пазьняка і, што характэрна, актыўным жыцьцём хрысьціянства ў памяшаньні канфэсіяў. Якраз-такі ў гэтых мясьцінах нацыянальнае анамаліі, на радзіме Зянона й Народнага Альбому, у краёх паляўнічых, хутаранаў і кантрабандыстаў вас могуць без залішніх пытаньняў выхадзіць пасьля бойкі зь менскім амонам ці, калі расшуквае гэбэ, перахоўваць, па начох перамяшчаючы зь вёскі ў вёску эстафэтай накшталт чачэнскай; дзе-небудзь на паседжаньні фронтаўскае рады вам будзе цікава даведацца, што вунь той маўклівы чалавек, які павітаўся з вамі, прыўзьняўшы капялюш, — унук аднаго з заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, пры СССР запісаў сына ў пашпарце пад іншым прозьвішчам, але выхаваў зь яго стопрацэнтовага нацыяналіста; што сьціплы хлопец ля вакна — прамы нашчадак кіраўніка СБМ, а зараз лідэр мясцовае незалежніцкае моладзі; што здаровы сівабароды дзед, які так уважліва разглядаў вас на ўваходзе, зьберагае спадчынную калекцыю рэчаў паўстанцаў Каліноўскага, а на ягоным гародзе, побач з лазьняю, пабудаваная адмыслова *зельня*, дзе дзед вылечвае зубны боль і найстрашнейшыя хваробы зёлкамі, намовамі й малітвай. Тут час ад часу трапляюцца такія калодзежы памяці, што агукнецца і Касьцюшка, і каралеўскія паляваньні Аўгуста, і, бадай, сам Вітаўт Вялікі; тут сапраўдныя інтэлігенты на першага і не другога калена *маюць манеры*, а дзеячы дазваляюць сабе быць трохі грэблівымі й пераборлівымі — словам, тут усё сваё, жывое й дыша.

Куды трагічней ува Ўсходняй Беларусі: нямногія з гэтага роду, дасьведчаныя ў тутэйшых руінах і раўсах, знаюць адзін аднаго ў твар, быццам сувязныя падпольля; яны маюць халодныя вочы, воўчыя звычкі, прывычкі дзейнічаць дзёрзка й па сьвятах выходзіць на плошчу, нібы на плаху. Бывае, крыжык на грудзях — гэта ўсё, што ў іх засталося, а яны ўсё стаяць на сваім, усё ўтрапёна даводзяць па замкі, мову й сьцяг, пра знакамітых продкаў, якіх удалося раскапаць вось гэтымі самымі рукамі, — і гэбісты здрыгаюцца, і палохаецца скрозь усё мясцовае насельніцтва.

Дарэчы, мне самому, усходніку, даводзілася не раз корпацца ў генах і пералічваць сузор'і *радзімак*, шукаючы прарочых кодаў ува ўласнай радні — і, між іншым, там выяўляліся многія не пазбаўленыя значэньня абставіны. Чыста беларускі фокус па матчынай лініі, калі з аднаго боку палякі з-пад Кракаву, зь іншага — расейскія чыгуначнікі, а між імі — засьцянковая пінская шляхцянка нашаніўскіх часоў, чыё прозьвішча дзіўным чынам можна стрэць праз стагодзьдзе — і цераз старонку газэты у гісторыка Сагановіча; глыбокая сямейная легенда, бясцэнная кропелька крыві з Палестыны — хрышчаны жыд Янкель, ад якога, гавораць, прабабка Наста захавала фэнамэнальныя матэматычныя здольнасьці, а яе ўнучка, настаўніца Тацяна, — цені сумненьня ў сваёй канчатковай славянскасьці; па бацьку — адборныя пакаленьні тутэйшых спадчынных бандароў; прадзед Пётар, які з маўзэрам у руках усталёўваў савецкую ўладу ў вёсцы, ад чаго ягоных дзяцей і ўнукаў закляймілі дэкрэтамі; ён, які пры канцы жыцьця залёг на печы, як за кулямётам, і, ашалелы, крычаў свайму сыну, майму дзеду: «Пашка! Падай патронаў, белыя прууць!..» — якраз таму дзеду Паўлу, што вывучаў у 30-я ў школцы беларускія вершыкі й сёньня, паралізаваны, у семдзесят зь нечым без запінкі расьпявае іх на памяць і, адданогі з фронту, тлумачыць унукам, што ўсякая вайна ёсьць проста забойствам, а разумнікі, кшталту вунь сына Косьці, павыдумлялі абы-чаго; вось, нарэшце, бацька Кастусь, зь юначых часоў фільфаку знаёмы ці не з паловай Саюзу пісьменьнікаў, пішучы журналіст і паэт, і пасьля ўсяго гэтага, уявіце сабе, — сын у Беларускім Народным Фронце.

Хочацца бачыць тут лёгіку, бо БНФ найлепш сярод усіх астатніх культывуе самае крышталёвае й сьвятое з усіх пачуцьцяў, што здольны даць род: калі бачыш сябе на вяршыні чалавечае гісторыі, грандыёзнае піраміды продкаў, збудаванай у імя цябе, дзе ў тваёй істоце скрозь тысячагодзьдзі сьцінаюцца лініі лёсаў, памкненьні кожнае радаснае душы, адказнасьць за ўсіх сваіх, хто быў і хто будзе, — абуджаюцца нечуваныя сілы, магутнасьці краіны й нацыі скрыжоўваюцца стакроць і ўзносяць думкамі й дзеямі ў вышыню, да Госпада Бога.

Сэнс нават ня проста ў выбуху каранёў нейкага генэалягічнага дрэва; справа яшчэ шырэй і глыбей, чым векавечны напеў, далячыняў смуга. Вось гіганцкі Ўладзімер Арлоў з дрымучым і задуменным, як сама беларуская гісторыя, позіркам, ціхенька распавядае пра Полаччыну, і ўвушшу ўсчынаецца дзіўны ўнутраны гул; вось чытаеш Караткевіча, а ў рытмовых радках з тахтам сэрца ўгадваецца генэтычны сумер глыбінёю ў колькі стагодзьдзяў — і знаеш, студэнт, міжволі пачынаеш адчуваць зямлю пад нагамі ня толькі падэшвамі ботаў. У дзясятках юных ліцэістаў з паўабароту на розныя лады чуваць пераліва інтанацыяў тамтэйшых выкладчыкаў-фронтаўцаў; у простых хлапчукоў, што папрыяжджалі ні з пушчы, ні з поля, праз пару дзён працы ўва Ўправе праклёўваецца старанное вінцукоўскае ціўканьне, ды й самога сябе лаўлю раз-пораз: так і цягне фармуляваць тэорыю, расьсякаючы жэстыкуляцыяй сказы, і тут жа, спорна, узважыўшы іх на далоні, паказваць, што атрымоўваецца на практыцы, — як гэта робіць Пазьняк.

Сапраўды, усе яны — і інтэлектуал, эўрамоўны паліглёт Баршчэўскі, геній прэзыдыюмаў, настолькі высакаробліва, што гэта адразу кідаецца ў вочы; і выкшталцоны Вінцук Вячорка, прынц крыві эпохі Public Relations, які з бляскам можа выканаць партыю на клявішах ноўтбуку проста ў залі паседжаньняў; і клясычны мудрэц Хадыка са сваёй заўсёднай пільнай усьмешкай, фізык, палітык і мастак, прафэсар хрысьціянскай дэмакратыі, што падрыхтаваў у Акадэміі Навук дваццаць дацэнтаў і чатырох дактароў; і Сіўчык Львінае Сэрца, шэры кардынал па справах масавых вулічных выступаў, здольны праліваць сьмяротныя нумары на ўдых-выдых і дзейнічаць у палітыцы ў рэжыме залпавае сыстэмы «Град»; і па-над усім — поўнае непадступнасьці беларускага нацыяналізму, высачэзны Зянон Пазьняк, які і ў Беларусі, і на эміграцыі выглядае, як галівудзкі кінагерой, і ўражвае абсалютнай верай у канчатковую перамогу — увесь гэты зорны ансамбаль даў бы фору любому парлямэнту ці ўраду. Другі такі збор бліскучых асобаў, узаемна-таленавітых і супольна-выбітных, настолькі моцных, калі яны разам, і такіх, па шчырасьці, бездапаможных паасобку, сярод беларусаў на сёньняшні дзень наўрад ці магчымы. Зараз калі ў нацыі раптам не застанецца свае каманды, калі лідэры разыйдуцца хто куды, расколоўшы Фронт, каб, можа быць, дзесяць гадоў пасьля сэнтымэнтальна сабрацца за горадам на турбазе — гэта будзе сапраўднай катастрофай для цэлага пакаленьня: так легенды року развальваюць найвялікшыя гурты і павяргаюць дзясяткі тысячаў фанаў на ўсё жыцьцё ў шок і дэпрэсію.

Варта згадаць, што ў стратэгічнай барацьбе за краіну, якую вось ужо дзесяцігодзьдзе вядуць між сабою Фронт і КГБ СССР, шалі ваганіся з пераменным посьпехам: БНФ імкліва губляў папулярнасьць, але гэтак жа хутка распаўсюджваў нацыянальна-дзяржаўніцкую ідэалёгію; ахвяраваў ініцыятывай, але выводзіў з гульні і нат набываў буйныя фігуры кіруючае эліты; разьменьваў рэфэрэндум-95 на Вясну-96; тым жа часам Імпэрыя набірала ў колькасьці, але катастрафічна губляла якасьць; захоплівала тэрыторыю, але прайгравала пэрспэктыву — і нават валодаючы сытуацыяй, пралічылася з самым галоўным — з часам.

На гэты раз час стаў рокам для Народнага Фронту. Ёсьць штосьці вечнае, наканаванае й нават, яшчэ дакладней, кананічнае ў тым, як на стыку тысячагодзьдзяў у БНФ сыходзяцца два пакаленьні — старэйшае, вэтэранскае, што не жадае саступаць у прынцыпах, і трыццаці-саракагадовае, талакоўскае, якое ставіць на прадпрымальнасьць і хватку — сыходзяцца са шматлікімі сутыкненьнямі ў суполках, рэгіянальных радах і на выбарчых канфэрэнцыях, з той зацятасьцю й крэхтам, якія адрозьніваюць змаганьне бацькоў і дзядоў на вачох у моладзі. Несумненна, змаганьне гэтых і тых ёсьць жыцьцём, адно каб яно не падарвала асноваў роду; зрэшты, далейшы лёс нацыянальнага руху прадвызначаецца ўсё ж не выходам цяперашняга двубою, а тым, ці здолеюць сыны, Малады Фронт, спалучыць досьвед і загартоўку вэтэранаў з учэпістасьцю й абароцістасьцю талакоўцаў, і, што яшчэ важней, узьняцца да самае сутнасьці ідэяў Адраджэньня, да веры ў самых сябе, у краіну, у Бога — толькі тады ёсьць шанец ператварыцца ў трэцяе й апошняе пераможнае пакаленьне.

***

Напрыканцы — наконт таго, чаму пра род Фронту ідзецца менавіта ў «Нашае Ніве». Можа быць, «Ніву» чытае і ня большая частка фронтаўцаў, але, будзьце пэўныя, гэта лепшая частка. Сама газэта, зь яе старамодным фрагмэнтам «НН» 90 гадоў таму», яе нядаўнім элітным арыстакратызмам, які надаваў настальгічнага тону нават самым будзённым публікацыям і расстаўляў прыватнасьці тарашкевіцкага правапісу, як сьвечкі й крышталёвыя сэрвізы, у парадку, вартым лепшых эўрапейскіх цырымаймайстраў; ды нават больш за тое — з простымі рэчамі й простымі словамі пачатку стагодзьдзя ў апошніх нумарох, дзе ў поўны рост выпростваецца клясычная традыцыя — гэтая фамільная бібліятэка нацыі, у адрозьненьне ад урадавых, «радавых» і ўсіх астатніх, зьява настолькі ж глыбока й унікальна родавая, як і сам БНФ. Таму ад афіцыйнае сустрэчы «Нашае Нівы» й Фронту варта было б чакаць нечага большага, чым запрашэньня прысесьці, далейшага, не без далікацтва, абмену ўколамі з пачуцьцём уласнае перавагі, ці езуіцкага цкаваньня Пазьняка: абедзьве дынастыі маюць пад сабою такую фундамэнтальную глыбіню, такую легенду, што нават стыль узаемных паводзінаў мае знакавы сэнс; таму больш значнасьці надаецца кожнаму выказанаму слову.

Таму:

Фронтаўцы, родныя мае!.. Чую, як скалануліся многія сэрцы — чытайце, перажывайце, і хай вам баліць, баліць за свой рух і за сваю краіну. Любыя вы нашы, мы вельмі просім вас: пацярпіце яшчэ трошкі. Дзеля падлеткаў, якія глядзяць на бел-чырван-белыя шэсьці, параскрываўшы ад захапленьня раты, дзеля дзятвы, што ледзь навучылася ў садзіку па-беларуску, дзеля дванаццацігадовых дзяўчатак, якіх у школах малодшыя дражняць за «калі ласку» — абдымiцеся, станьце поплеч, не аддавайце на патаптаньне *адзіны* Беларускі Фронт. Не шукайце ворагаў сярод братоў — фатальны вораг ужо засеў у кожным з нас і паражае род з часоў міжсобных магнацкіх войнаў; гэта *мы самі* бясконца выракаемся ўсяго сьвятога, дзеля чаго пачыналася Адраджэньне. Зазірніма ж у самых сябе, жахнемся, прачуйма сорам да горкіх сьлёзаў — каб у вымытых вачох азарылася краіна, каб нам убачыць такія шчырыя, мілыя сяброўскія аблічы і нарэшце зразумець, што перамога прыйдзе да нас не зь нянавісьцю, а зь любоўю.

*Ліпень 1999 г.*

# СУБ'ЕКТЫЎНАСЬЦЬ НАРОДА

Яня ГАЛОЎЧЫК

У свой час савецкая гістарыяграфія адназначна вырашыла пытаньне пра існаваньне народнасьцяў і нацыяў. Лічылася, што на аснове старажытнарускай народнасьці (да яе вернемся пазьней) цягам XIV-XVI ст. склаліся тры ўсходнеславянскія — вялікарасейская, украінская і беларуская, кожная зь якіх мела свае асноўныя этнічныя прыкметы. Спачатку за іх уважалі мову, тэрыторыю, эканоміку і культуру, а ў гады перабудовы большы акцэнт рабіўся на моўна-культурныя асаблівасьці.

Аднак аргумэнтавана ніхто ня мог правесьці больш-менш дакладныя межы гэтых народаў, вызначыць этнічную прыналежнасьць шмат якіх помнікаў літаратуры і культуры. Чаму? Бо праблема вырашалася занадта спрошчана. Савецкія этнографы ў сваіх працах звычайна не давалі дакладнага азначэньня этнасу, не апісвалі мэтадаў дасьледаваньня, ня ўлічвалі спэцыфікі пэрыяду etc. Прынцыповыя пытаньні этнічнай гісторыі вырашаліся на эмпірычным узроўні. Тэорыя, калі й была, дык толькі з Масквы і толькі для забесьпячэньня адзінства канцэпцыі.

Распад СССР выявіў убоства такой навукі. Калі яшчэ зусім нядаўна савецкая гуманістыка ганарылася стварэньнем сваёй тэорыі этнасу, дык цяпер робіцца ўсё больш відавочным, што ніводная з прапанаваных этнічных прыкметаў не абавязковая для рэальных этнасаў, па-першае, і ня можа ўважацца ўласьцівай выключна этнічным супольнасьцям, па-другое. Выходзіць, само азначэньне этнасу ня можа лічыцца навуковым. Што тады гаварыць пра тэорыю...

У апазыцыі да афіцыйнай савецкай тэорыі этнасу знаходзілася вядомая канцэпцыя Л.Гумілёва, які зводзіў галоўную прыкмету ўсялякага этнічнага ўтварэньня да процістаяньня «мы — яны», да ўсьведамленьня адрозьненьня ад іншых. Яна таксама даволі супярэчлівая і не вырашае ўсіх праблемаў. Але цікава, што ў пошуках сутнаснага этнічнага маркеру і слуп савецкай этнаграфіі Брамлей, і апальны Гумілёў прыйшлі ўрэшце да аднаго — да сьвядомасьці, да сфэры суб'ектыўнага. Менавіта так разглядала этнічныя ўтварэньні і немарксісцкая навука ў Эўропе, у прыватнасьці, у канцэптуальна бліжэйшай нам Нямеччыне. Маю на ўвазе суб'ектыўную тэорыю этнасу, створаную яшчэ Э.Рэнанам.

Выходзіць, адказы на пытаньні пра існаваньне этнасу трэба шукаць найперш у сьвядомасьці. А ў нашай навуцы заўжды фігуравала пераважна матэрыяльная сфэра жыцьця народа. Выяўленыя этнографамі нацыянальныя асаблівасці матэрыяльнай і нават духовай культуры могуць быць у лепшым выпадку толькі апрадмечаным абліччам этнасу, яго вытворнай. Але няма гарантыі, што яны маюць толькі этнічнае паходжаньне. Культурную спэцыфіку могуць абумовіць і супольнасьці іншага тыпу.

У гэтай сувязі самавыяўленьне этнасу (народа) на ўзроўні суб'ектыўных крытэраў выглядае куды больш пэўным. Галоўным індыкатарам існаваньня этнасу пры такім падыходзе будзе наяўнасьць этнічнай (нацыянальнай) сьвядомасьці, складовым элемэнтам якога ў Сярэднявеччы была перадусім вера ў супольнае паходжаньне, усьведамленьне адзінства і адрозьненьня ад іншых. Усё гэта выяўляецца звычайна ў саманазьве, у формах патрыятызму і ксэнафобіі, у зьмесьце катэгорыяў «мы» і «яны», «свае» і «чужыя», а таксама ў спэцыфічных нормах паводзінаў. На жаль, што да акрэсьленай праблемы, масавы пісьмовы матэрыял — сапраўдны суб'ектыўны космас беларусаў! — дасюль практычна не дасьледаваўся. ■

# ФАЛЬСЫФІКАТЫ НАШАЙ МІНУЎШЧЫНЫ



Генадзь САГАНОВІЧ

Пэўна, мала хто зь міласьнікаў даўняй гісторыі Беларусі чуў пра дзёньнік графа Конрада Кібурга. Паводле запісаў гэтага швэйцарца, у 1397 годзе ён як эльбінгскі комтур наведаў Вільню ў складзе ордэнскага пасольства і пакінуў апісаньне пабачанага — сталіцы Вялікага Княства ды іншых цьвердзяў, узбраеньня ліцьвінаў і г.д. Ягоны дзёньнік і цяпер эфэктна выкарыстоўваецца ў працах некаторых беларускіх гісторыкаў (на памяці М.Ермаловіч з В.Чаропкам). Мяне ў свой час таксама ўразіла такая-сякая інфармацыя з запісаў Кібурга. У прыватнасьці, тое, што іх аўтар бачыў, як муштрой ліцьвінскага войска пад Коўнай кіраваў «нейкі русін князь Юры». У сьвятле сьведчаньняў нямецкіх кронік падобная сцэна выглядае цалкам праўдападобнай, хоць мае літоўскія калегі ніколі з тым не пагодзяцца. Але я не пра гэта. Рэч у тым, што ўвесь дзёньнік графа Кібурга — удалая падробка!

Гэтую містыфікацыю яшчэ на пачатку стагодзьдзя выкрыў нямецкі гісторык Паўль Карге. Галоўны доказ неаўтэнтычнасьці дзёньніка ён знайшоў у тэксьце самых запісаў. Выдатны знаўца старанямецкай мовы і рэаліяў адразу прыкмеціў тое, чаго ня бачылі іншыя, і атрымалася наступная карціна.

Па-першае, фальшывы стыль: рамантычна-сэнтымэнтальны тон запісаў проста немагчымы для сярэднявечных помнікаў падобнага тыпу. Па-другое, штучная Кібургава мова: у вусны дыплямата XIV ст. укладзеныя звароты і выразы эпохі рамантызму! Па-трэцяе, няпраўдзівы зьмест запісаў. Ордэнскі пасол Кібург быццам наведвае ўсе віленскія храмы, шмат часу праводзіць зь віленскім біскупам, апісваючы яго прыём і абед, падрабязна апавядае пра набажэнствы і г.д. Усё гэта так нерэалістычна! Празьмернае падкрэсьліваньне рэлігійнасьці было неўласьцівае падобным помнікам таго часу. Каб пераканацца ў штучнасьці запісаў, варта пазнаёміцца з аўтэнтычнымі пасольскімі паведамленьнямі Вітаўтавых часоў.

Урэшце, у дзёньніку мноства дэталёвых несупадзеньняў. Вядома, што ордэнскае пасольства прыехала на перамовы да Вітаўта не ў 1397, як па запісах, а ў 1398 годзе, і ня ў Вільню, а ў Горадню. У дзёньніку граф Кібург паказаны прадстаўніком вялікага магістра, аднак у сапраўднасьці тое пасольства ўзначальвалася вялікім комтурам Гельфэнштайнам, які пераўзыходзіў Кібурга рангам. Дзівосным для канца XIV ст. выглядае апісаньне касьцёлу сьвятой Ганны ў тым выглядзе, які помнік набыў пасьля 1500 году! Не бракуе ў дзёньніку і гістарычных баек XVI-XVII ст., што трапілі ў летапісы.

Дык што ж гэта за тэкст? Упершыню «крыніца» была надрукаваная Тодарам Нарбутам у 1856 годзе, хоць крыху раней новы помнік згадваў Ігнаці Крашэўскі. Нарбут спаслаўся на магістра філязофіі Віленскага ўнівэрсытэту Нацэвіча, у якога і ўзяў тэкст. Менавіта апошняга Паўль Карге залічыў да сапраўдных аўтараў падробкі, створанай недзе да 1840-х.

Магчыма, Нацэвіч быў захоплены прыкладам чэхаў Ганкі і Свободы, што стварылі найстаражытнейшы помнік чэскага пісьменства, магчыма — практыкай расейскіх містыфікатараў («запаветы» Пятра I і Кацярыны II ды шмат інш.). У кожным разе, яго стылізацыю трэба прызнаць удалай. Вымысьлены дзёньнік графа Кібурга ўвайшоў у гістарыяграфію як аўтэнтык, і спатрэбілася некалькі пакаленьняў гісторыкаў, каб знайшоўся спэцыяліст, здольны выкрыць падробку, але большасьць і цяпер пра гэта ня ведае.

А падобных жа фальсыфікатаў у нашай гісторыі, як у кожнай эўрапейскай, — дзясяткі! ■



# ЧАСЫ АЛЬГЕРДА



*Mazeika, Rasa Joan. The Role of Pagan Lithuania in Roman Catholic and Greek Orthodox Religious Diplomacy in East-Central Europe (1345—1377). Fordham, New York, 1987.*

Часы княжаньня вялікага князя Альгерда (1345—1377) — бясспрэчна, адна з самых яркіх старонак нашае гісторыі. Вялікае Княства Літоўскае ператварылася тады ў найбуйнейшую дзяржаву Ўсходняе Эўропы, і найважнейшым аспэктам яго замежнапалітычнае чыннасьці сталі дачыненьні з каталіцкім і праваслаўным сьветам. Праца Расы Мажэйкі, канадзкай дасьледчыцы летувіскага паходжаньня, акурат і прысьвечаная разгляду гісторыі кантактаў Альгерда з хрысьціянамі.

Даўняя праблема падзелу спадчыны Вялікага Княства Літоўскага паміж беларусамі й летувісамі падаецца невырашальнай у агляднай будучыні. Як вядома, летувісы гэтай спадчынай ні з кім дзяліцца не жадаюць. Чытаючы кнігу Мажэйкі, адчуваеш гэтага. Здавалася б, кожны беларускі гісторык, знаёмы з пазыцыяй афіцыйнае летувіскае гістарыяграфіі адносна месца й ролі нашых продкаў у Вялікім Княстве, мусіць быць маральна падрыхтаваны да сустрэчы з падобнымі працамі, аднак усё адно некаторыя моманты пакідаюць непрыемнае ўражаньне. Напрыклад, тое, што летапісная Літва скрозь атаясамліваецца з сучаснай тэрыторыяй Рэспублікі Летува (пытаньне пра яе лякалізацыю тут нават ня ставіцца), паўсюдна выкарыстоўваюцца сучасныя, літуанізаваныя імёны літоўскіх князёў (Algirdas, Mindaugas, Vytenis), расейскія й беларускія землі практычна не разьмяжоўваюцца, ВКЛ называецца дзяржавай паганскай, летувіскі элемэнт трактуецца як вызначальны, а русіны паказаныя як тыя, каго літоўцы заваявалі (нібыта магутнасьць ВКЛ не залежала ў першую чаргу менавіта ад унёску славянскага насельніцтва краіны) і г.д.

У кнізе тры асноўныя разьдзелы: «Пэрсанальная рэлігійная прыналежнасьць вялікага князя Альгерда», «Адносіны з праваслаўнымі хрысьціянамі» і «Перамовы аб каталіцкім хрышчэньні». Дасьледчыца выкарыстала самыя разнастайныя крыніцы: лацінскія кронікі і ўсходнеславянскія летапісы, папскія булы й рэестры, лісты канстанцінопальскіх патрыярхаў, тэксты дамоваў і інш. Важна, што тэксты дакумэнтаў, выкладзеныя па-ангельску, часта паралельна падаюцца на мове арыгіналу.

Раса Мажэйка лічыць, што Альгерд быў напраўду паганцам, ставячы пад сумнеў паведамленьні летапісаў пра яго праваслаўны хрост або прыналежнасьць да праваслаўя. Пры аналізе ж крыніцаў, якія сьведчаць пра паганства Альгерда, аўтарка ўжо менш крытычная. Праўда, магчымасьці перадсьмяротнага навяртаньня вялікага князя яна цалкам не адмаўляе.

У другім разьдзеле цікавы эпізод пра пакараньне Альгердам трох прыдворных, што прынялі праваслаўе. Трох віленскіх пакутнікаў Мажэйка называе літоўцамі, хоць паганскія імёны пакараных (Круглец, Няжыла, Кумец) сьведчаць пра іх славянскасьць. Ацэньваючы гэтае здарэньне, дасьледчыца кажа, што Альгерд пакараў сьмерцю гэтых нэафітаў не за адкрытае вызнаньне хрысьціянства як такое, але за публічнае непадпарадкаваньне ўладзе вялікага князя.

Пад час перамоваў пра каталіцкі хрост (у 1349, 1351, 1358 і 1373 гадох) Альгерд, паводле высноваў Мажэйкі, умела карыстаўся пазыцыяй патэнцыйнага нованавернутага, каб аблегчыць адносіны з хрысьціянскімі дзяржавамі. Рэч у тым, што сярэднявечныя хрысьціяне не маглі весьці ніякае размовы зь няверным і, апрача выпадкаў, калі гэта было зьвязана зь місіянэрскай дзейнасьцю. Працяглае ж паганства літоўцаў не перашкаджала іх прыязным дачыненьням з хрысьціянамі, хоць часам яны былі сакрэтнымі ці маскаваліся пад місіянэрства — каб ня выклікаць незадаволенасьці папаў. Тыя некалькі сур'ёзных спробаў навяртаньня літоўцаў пры Альгердзе таксама мелі моцны палітычны падтэкст. Аўтарка параўноўвае іх з падобнымі перамовамі папярэднікаў Альгерда — князёў Міндоўга, Віценя і Гедыміна. Дарэчы, Міндоўг тут чамусьці названы адзіным уладаром Літвы, ахрышчаным да 1386-га году. Нібыта Войшалк ня быў уладаром Літвы, або ня быў ахрышчаным (ня кажучы ўжо пра тое, што зьяўляўся праваслаўным манахам і нават заснаваў манастыр).

Альгерд, такім чынам, ужываў рэлігійныя перамовы дзеля чыста палітычных мэтаў. Карыстаючыся сваёй унікальнай пазыцыяй паганскага ўладара, не падпарадкаванага ўладзе аніякае царкоўнае гіерархіі, ён атрымліваў рэальныя палітычныя выгоды ад падобных дыпляматычных манэўраў.

Праца, безумоўна, будзе карысная і беларускаму чытачу. І найперш тым, што ўтрымлівае тэксты многіх дакумэнтаў, якія раней былі практычна недаступныя пераважнай большасьці нашых дасьледчыкаў, а таксама тым, што разглядае гісторыю рэлігійных дачыненьняў ВКЛ з хрысьціянскімі краінамі ў кантэксьце эўрапейскае палітыкі.

Натальля Брэль

Наша Ніва [15] 19.07.1999

100 твораў мастацтва XX стагодзьдзя

# Алесь Пушкін. Эпітафія дзеду

Гэта адно зь першых палотнаў Пушкіна. Не зважаючы на ягоны ўзрост і яшчэ сьціплы даробак учорашняга выпускніка мастацкага інстытуту, гэты твор быў адразу пастаўлены ў шэраг славутых і клясычных. Яго шматкроць рэпрадукавалі, выстаўлялі, ды, нарэшце, прыдбалі ў Нацыянальны мастацкі музэй.

Сярод таго, што стваралася на пачатку 90-х гадоў, творы Алеся Пушкіна, ды й сама ягоная постаць, прыцягнулі ўвагу гледача сваёй сюжэтнасьцю й натуралістычнасьцю выяваў. Папярэдні савецкі пэрыяд аддаліў гледача ад мастака, найперш з-за адсутнасьці мастацкае асьветы, а па-другое, з-за адсутнасьці рынку і, адпаведна, мастацкай крытыкі. А таму мастакі ня надта і дбалі пра сваю папулярнасьць. А беларускі глядач ня бачыў розьніцы паміж Далі й Ісачовым, паміж Савіцкім і Ароска. Мастакам не падабалася публіка. Публіцы былі недаспадобы мастакі. А вось жа карціна Пушкіна спадабалася ўсім. Чым?

Найперш тым, што ў яе можна *ўзірацца* доўга і ўважліва, складаючы сабе розныя аповеды, цешачы свае ўспаміны ці гледзячы ў люстэрка свайго ж побыту. Нанізаныя, нібы пацеркі на нітку, розныя сюжэты складаюцца ў адзіны ружанец, перабіраючы які, мы перабіраем і фрагмэнты свайго жыцьця…

Кампазыцыя складаецца са звычайных, нават банальных для нашага мастацтва элемэнтаў. Нацюрморт: ссохлыя зёлкі, цыбуля, часнык, бабы… Пэйзаж: мястэчковы краявід, бязь нейкіх адрасных прыкметаў… Людзі: нясуць труну на капцы, а ваду дахаты, колюць дровы й кабана… Птушка: нейкая расьцяруханая паўгалка-паўварона, рыхтык як у Брэйгеля, ляціць скрозь чорныя каруны гальля… Усё як паўсюль, але на тым і палягае абаяльная прыцягальнасьць «Эпітафіі» — на яе ўнівэрсальнасьці.

Белая драпіроўка абруса, элеганцкі скамечаная, сыходзіць зь першага пляну ў далягляд, распускаючыся ў сьнягох. Холад абрусу на шэрым коле стала падкрэсьлены звонкімі барвамі залатых цыбулінаў ды лісьцікаў-пісяжкоў леташняе травы. Гэтак проста — хата астывае. Хата, дзе быў дзед. А там, там, у сінеючай імжы блізкае адлігі, туды, куды яго зьнесьлі, па-ранейшаму варушацца, жывуць людзі… Рэзкае спалучэньне розных плянаў, занадта блізкіх ды бясконца далёкіх, утварае ілюзію неверагоднае манумэнтальнасьці невялікага станкавага палатна.



Сьціплая каляровая гама (тры-чатыры колеры) пры бліжэйшым разглядзе аказваецца цэлым калейдаскопам паўтаноў ды адценьняў. Сама жывапісная тэхніка Пушкіна ў гэтым палатне цікавая: нешта працёрта, як у *лаках*, недзе прадрапана, нібы на гравюры, а недзе, нібы акварэльлю, пакладзены празрысты блік. Пазьней Пушкін зьвяртаецца да розных, прасьцейшых тэхнікаў: алей, тэмпэра, уласная кроў… Зрэшты, гэты, ужо іншы Пушкін, ставіць сабе іншыя задачы.

Ён запамінаецца ўсім па-рознаму. Для адных ён — рэстаўратар унікальных росьпісаў 18 ст. Станіславаўскага касьцёлу ў Магілёве і аўтар росьпісаў царквы ў сваім родным Бабры. Для іншых — мастак-авангардыст, які стварыў у Віцебску галерэю ўласнага імя й здолеў такі зьдзівіць места Шагала ды Малевіча сваімі бязьлітаснымі пэрфомансамі. Для кагосьці ён — антысэміт, бабнік і нацыяналіст. А для кагосьці… Запомніўся, карацей. Найперш, элегічнай і нягучнай «Эпітафіяй».

**Сяргей Харэўскі**

**Алесь Пушкін** (1965, мястэчка Бобр, Меншчына), жывапісец, манумэнталіст і станкавіст. Да 1983 вучыўся ў школе-інтэрнаце імя Ахрэмчыка. У 1990 скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, дзе вучыўся ў Гаўрылы Вашчанкі. Аўтар росьпісаў у Ліцэі мастацтваў, што ў Менску, у санаторыі «Беларусь», што ў Друскеніках (Літва), у касьцёле Сьв. Станіслава ў Магілёве. Жывапісныя палотны захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музэі і Полацкім гістарычна-культурным запаведніку. Выстаўляў свае творы ў Літве, Польшчы, Нямеччыне, Расеі.

Барыс ТУМАР

# «Я мару пра Беларусь з жыдамі й камуністамі»



Здымак Міхала Баразны

***Алесь Пушкін — гэта Славамір Адамовіч беларускага выяўленчага мастацтва. У 1989 годзе яго судзілі за мастацкі пэрфоманс, у 1993 годзе — за арганізацыю зьезду беларускіх нацыяналістаў у Віцебску ў яго адабралі мастацкую галерэю. Ён расьпісваў магілёўскі касьцёл і царкву ў Бабры, прапаноўваў віцебскаму япіскапу расьпісаць япіскапскія палаты ў Віцебску. Менавіта з кадраў, на якіх ён стаіць на плошчы Якуба Коласа, адзін зь першых дэманстрантаў, высокі-высокі, у калярытным капелюшы зь пяром, пачынала маскоўскае тэлебачаньне свой рэпартаж пра сьвяткаваньне 80-х угодкаў БНР. Сёньня Алесь Пушкін распавядае пра сябе.***

— Самае галоўнае — жыць у гармоніі з самім сабой. Але часта сам ня ведаеш шляхоў да гэтай гармоніі, і толькі іншыя людзі іх падказваюць. Мяне аддаў у мастацкую школу-інтэрнат, дзетдом, як яе называюць мастакі, бацька, прычым валявым рашэньнем — я не хацеў. У 1990 годзе з Тэатральна-мастацкага яшчэ разьмяркоўвалі. Мне дастаўся Віцебск. Я прыехаў і пайшоў па мальбэрт. Кажу, дайце ці прадайце мальбэрт, і я праслаўлю гэты горад. Сьмяяліся. Цяпер для мяне вельмі дарагі Віцебск. Там у 1993 годзе я адкрыў першую прыватную галерэю, там прайшла выстава артэфактаў, зьезд беларускіх нацыяналістаў. Калі жыў там, атрымаў замову на працу для магілёўскага касьцёла. Там я пачаў працаваць у тэатры. Цяпер мы з рэжысэрам Грышкевічам рыхтуем спэктакль паводле Ёнэско «Крэслы» ў Коласаўскім тэатры. На 2000 год запланавалі «Гамлета». Галоўнага героя, мяркуецца, будзе іграць мастак-нонканфарміст, абстракцыяніст, які жыве між Парыжам і Бэрлінам. Не хачу называць ягонага прозьвішча, пакуль гэта ўсё яшчэ не зрэалізавалася. Калі не было б чалавека, які ў жыцьці як Гамлет, дык ня варта было б і ставіць. Апроч таго, мы з Аляксеем Марачкіным падрыхтавалі праект інтэр'еру беларускай царквы ў імя іконы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе, штат Агаё. Я — росьпісы, а ён — іканастас. Мне вельмі хочацца зрабіць праваслаўную царкву за мяжой, пасьля таго, як я зрабіў праваслаўную царкву ў Бабры.

**— Бацька загнаў Вас у інтэрнат. А далей ужо ўсё ішло само сабой?**

— Усё пачалося ў 1988 годзе з наведаньня Вільні — мы тады часта езьдзілі на выставы ў віленскі новы Палац мастацтваў. Адзін раз прыяжджаем туды, а там літоўцы, народу сьвет, на плошчы сьвяткуюць Дзень Канстытуцыі зь лёзунгамі пратэсту, з транспарантамі «СССР — турма народаў»… Мяне гэта вельмі ўразіла. Я стаў чытаць, паехаў да бацькі і зіму праляжаў на печы, чытаючы пра БНР. А тады ў 1989 годзе вырашыў наладзіць у Менску пэрфоманс у стылі соцарт на 71-я ўгодкі БНР. «Замест Беларусі сацыялістычнай нам патрэбна Беларусь народная», — пісаў я тады. Дзень Волі — гэта маё сьвята. Я заўсёды пад яго ладжу падзеі й выставы.

Калі прадстаўніца Віцебскага музэю прыехала выбіраць, якую маю працу купіць, я прапаноўваў ёй аб'екты з таго пэрфомансу, тым больш, што яны страчваюць сваё значэньня. Яна мялася, маўляў, гэта не зусім мастацтва, і хацела купіць партрэт маці. Але я не магу прадаць партрэт маці й бацька. Яны ў мяне адны.

**— У 1989 годзе афіцыйная прапаганда зрабіла Вас вядомым, растыражаваўшы Вашу фразу «Я мару аб Беларусі без жыдоў і камуністаў». Пра якую Беларусь Вы марыце цяпер?**

— Цяпер я мару пра Беларусь з жыдамі й камуністамі. Як Віктар Івашкевіч сьмяецца: праграма-мінімум выкананая, тыя зьехалі і тых няма, а дабра ў Беларусі стала яшчэ менш. Я мару пра Беларусь, дзе былі б усе і дзе была б свабода. Але дзе ўлада была б у беларусаў. Калі ў 1991 годзе мы ў Віцебску ўзьнімалі над выканкамам бел-чырвона-белы сьцяг, ці маглі мы ўявіць, што ўсё вернецца?

**— Славамір Адамовіч іншы раз ходзіць Менскам у вышыванай кашулі. Гэта важна? Калі інтэлігенцыя надзене вышываныя кашулі, ці гэта можа нешта зьмяніць?**

— Зьмяніць можна, калі інтэлігенцыя будзе езьдзіць на «Мэрсэдэсах». Калі беларусы будуць выклікаць зайздрасьць. Увогуле ж, хадзіць у льняных кашулях і саламяных брылях — вельмі здарова.

**— А Ваш капялюш зь пяром?**

— Так, мне калісьці дзяўчаты яшчэ ў Менску падарылі ўпершыню пер'е да капелюша. Шапка зь пяром сталася й сымбалем маёй віцебскай галерэі. У Віцебску я насіў пер'е арлінае — бо ў віцебскім заапарку ёсьць арол. У Магілёве мне падарылі фазанава, доўгае, прыгожае — зь ім я цяпер і хаджу. У Магілёве я вельмі часта сутыкаўся з варожым стаўленьнем да гэтага пяра. Шмат разоў прыходзілася біцца. «Эй, ты, дзяцел, стой!» — крычалі мне. Увесь час было адчуваньне небясьпекі. Гэта маё наканаваньне — ісьці супраць грамадзтва і ягонай нецярпімасьці. Трэба так ісьці па жыцьці, — кажу я сабе заўжды, наконт капелюша і ва ўсім. Але судзіць па капелюшы, гэта ўсё адно, што судзіць па словах. Не па словах трэба судзіць, а па справах. Жыць і працаваць, каб рэалізавацца ў нашых вельмі бедных умовах.

**— Мастаку тут гэта зрабіць цяжэй, чым на Захадзе?**

— Бадай! Вось мне да спэктаклю патрэбныя спэцыяльныя страбаскопы, каб імітаваць маланкі, і плястмасавы шум, каб зрабіць горы. Сродкаў для гэтага няма, а таму прыходзіцца выкручвацца. Беднасьць вымушае быць мінімалістам. І на 21 ліпеня, каб было больш грошай, можна было б арганізаваць яркае, вясёлае, амэрыканскае відовішча. Што ж, калі няма пены, мусім абыходзіцца бязь пены. Галоўнае — сам факт учынку. Не прасядзець дома 21 ліпеня, або, як было ў мяне — расьпісаць вясковую царкву, маючы зусім скупую палітру, чатыры-пяць фарбаў. Мяне найбольш уражвае маўчаньне — краіна гіне, а людзі нічога ня робяць, ходзяць, п'юць піва й гарэлку. І я ўпэўнены, што й 21-га знойдуцца такія, хто будзе проста прагульвацца. ■

# ТРЫНАЦЦАТАЯ НОЧ

Яня ЖДАНОВІЧ

Яны выйшлі на вуліцу, калі па Сьвіслачы ўжо даўно плылі агні начнога праспэкту. Час пераваліў на трэцюю гадзіну, але горад ня спаў — дыхаў і ня мог надыхацца чаканай прахалодаю. Сьляды жахлівай сьпёкі засталіся толькі ў асфальце. Цяпер па ім безупынна шапацелі колы аўтамабіляў.

«Добры вечар!» — падумала Марычка, азірнуўшыся на нэонавае зьзяньне над уваходам у рэстарацыю. Неспадзявана праседзелі зь сябрамі тут паўночы.

— Гэта што, тая самая Няміга? — перапытвала тым часам віноўніца ўрачыстасьці, жыхарка расейскага Далёкага Ўсходу.

— Тая самая, — прагучала пад націскам.

— Іншай у нас няма,— сказаў Алесь.

Другі віноўнік урачыстасьці, таксама жыхар Прымор'я, ужо зьвяртаў увагу на актуальную для кампаніі праблему. Пакуль адзначалі прыезд гасьцей, сабраліся яшчэ сябры. Транспарт не хадзіў, аўто ж было адно на цэлую тусоўку.

— Паедзем па чарзе?

— Ці лепей таксі?..

— А нам тут недалёка, мо прагуляемся?

Марычка з Алесем, не змаўляючыся, павярнулі галовы ў бок дому за царквой. І не паверылі вачам.

Ад белага храму рухаліся дзьве постаці — хлопец і дзяўчына.



Апавяданьне

Штосьці было ў постацях на тым баку страшна прыцягальнае. Што?

Дзяўчына была ў белай вясельнай сукенцы. Ветрык лёгка пагойдваў яе даўгія валасы, не пакрытыя вэлюмам, але ўпрыгожаныя белай кветкай. Хлопец таксама быў у вясельным строі. «Ніколі б не пайшла бадзяцца ў такі час на сваё вясельле!» — падумала Марычка, прыгадаўшы, як яно прайшло ў бацькоўскім доме. Адарваўшыся ад імгненнага ўспаміну, яна адчула трывогу. Муж зь сябрамі ўсё гэтак жа стаялі каля аўто. А вясельная пара ўсё ішла да іх, павольна-павольна.

У жаніха зь нявестай былі вельмі харошыя твары — напэўна, пра такія кажуць «анёльская прыгажосьць» — такія гожыя, што рабілася аж страшна.

Марычка адчула раптоўны жах, калі маладыя гэтаксама, быццам у сьне, ступілі на праезную частку.

— ... Гэй! Ужо сьпіш, Марыша? — гукнуў яе нехта.

— Хутчэй сядайце, ды едзем. Я — да Алеся на калені, — адказала яна.

Іхны сябра, душа кампаніі, ужо распавядаў анэкдот. У яго ўсё жыцьцё складалася зь нейкіх анэкдотаў.

— Во, блін! Хіба так п'юць? — рэзка перабіў душу кампаніі госьць з Прымор'я.

Усе павярнуліся.

Хлопец і дзяўчына ў вясельных уборах сунуліся праз дарогу. Нага ў нагу, запаволеныя крокі. Тыя самыя ўсьмешкі, анёльскія рысы... Тая самая адсутнасьць... Машыны спыняліся перад імі.

Жарты сьціхлі. Усе ня зводзілі вачэй зь нявесты з жаніхом. Тыя нікога й нічога не заўважалі. Белая сукенка дакранулася да бліскучага боку іншамаркі. Ніхто ў салёне не варухнуўся.

— Гасьцей паклалі спаць, а самі — у «Добры вечар». Дзівакі! — пракамэнтаваў душа кампаніі.

— Сьпёка, а незагарэлыя, — заўважыла жонка госьця з Далёкага Ўсходу.

Марычка з Алесем пераглянуліся.

А маладыя ўжо ішлі назад. Проста на іх. Вось яны кружаць вакол машыны, абыходзяць. Плаўна. Нетаропка. Ім няма куды сьпяшацца.

— Ё-маё! — шапнуў нехта.

— Не, не п'яныя, — змрочна адзначыў прыморац.

— Зачыніце вакно! — шапнула Марычка.

Шкло паехала ўгару, і маладыя гэтак жа павольна паплылі ўпрочкі, спыняючы машыны.

— Вось тут?.. — кіўнуў нетутэйшы сябра Алеся.

— Так. Іх пахавалі ў такім самым адзеньні.

***

Пасьля Нямігі прайшло 12 дзён і начэй. Гэтая ноч была трынаццатай. Якраз напярэдадні мінулай ночы неба над Менскам ізноў разразілася залевай.

Раніцай Марычка з Алесем пачулі працяг начной гісторыі. Зрэшты, тое было проста дзіўным супадзеньнем...

Жанчына, якой яны ўвечары пакінулі нянчыць свайго дзіцёнка, прачнулася сярод ночы няведама ад чаго. Раптоўна, як ад штуршка.

Жанчына таксама ня ведала, чаму хочацца на двор. Яна прайшла на кухню й расчыніла шырэй вакно. З боку Нямігі даносіўся ціхі, урачысты, узьнёслы гук. Яна стала слухаць і зразумела: гэта нечая малітва, альбо гімн, альбо сьпевы аргану. Жанчыне стала хораша на душы. Яна падумала, што ўсе храмы цяпер зачыненыя, а яна даўно не заходзіла ў храм.

Дзіцёнак спаў. Гадзіньнік паказваў пачатак на трэцюю.

... Усе, хто ў трынаццатую ноч пасьля Тройцы апынуўся бліз Нямігі, сьцьвярджаюць, што ніякіх царкоўных сьпеваў там не было. Іншыя ж кажуць, што трынаццаць — гэта лічба, зьвязаная з Паннай Марыяй. Ніхто дагэтуль ня ведае, ці прыходзіла зь нябёсаў на зямлю адна зь нявестаў Хрыста, а калі прыходзіла — як звалі й каго яна брала з сабою. Па-над старой Нямігай пайшла легенда, быццам нявесту звалі Дашай, і Панна Марыя паслала яе ўпэўніцца, што ейнае імя людзі не забыліся напісаць на мармуровых плітах.

Я не магла паверыць у сапраўднасьць гэтай гісторыі. Я зайшла ў пераход і пабачыла іншае, ад чаго мне стала ня менш страшна, чым Марычцы ў трынаццатую ноч пры спатканьні ці то зь людзьмі, ці то з анёламі. На адной са сьценаў былі прылепленыя тры аркушы з тэкстам на царкоўнаславянскай. На кожным ад рукі былі прыпісаныя сатанінскія знакі і тры лічбы. Тры шасьцёркі... ■

Адам ГЛЁБУС

# РАСЕЙСКАЯ КАЛЕКЦЫЯ-2

*Расейскі розум ярчэй за ўсё выяўляецца ў глупствах...*
*В.Ключэўскі*

***Нататкі з «Кішэннай гісторыі культуры»***

### ТАЛСТОЙ

Янка Брыль – талстовец і літаратар – пісаў пра ідыятызм вясковага жыцьця. У мяне ідыятызм жыцьця на вёсцы асацыюецца хутчэй з жыцьцём Талстога, чым з жыцьцём селяніна. Васіль Восіпавіч Ключэўскі пра таго ж Талстога сказаў так: «Талстой — позьняя пародыя на старажытнарасейскага бажаволка, які соваўся гарадзкімі вуліцамі голы й не саромеўся».

### ДАСТАЕЎСКІ

У сваіх «Словах пігмэя» Акутагава Руноскэ напісаў пра Фёдара Міхайлавіча наступнае: «Раманы Дастаеўскага поўняцца карыкатурнымі вобразамі. Праўда, большасьць зь іх прымушае маркоціцца й самога д'ябла». Японцу вобразы Дастаеўскага падаліся карыкатурнымі, насамрэч жа выродлівасьць у Дастаеўскага рэалістычная, звычайная расейская.

### РЭПІН

Кінэматаграфіст Нікіта Міхалкоў, разважаючы пра жывапіс, не падумаўшы, ляпнуў: творчасьць Ільлі Рэпіна такая ж папулярная ў Расеі, як творчасьць Рафаэля ў Італіі. Мяркую, сам Рэпін вельмі зьдзівіўся б такому мядзьведжаму й чыста расейскаму камплімэнту. Папулярнасьць мастакоў італійскага Адраджэньня пераўзыходзіць вядомасьць астатніх на некалькі парадкаў, і Расея, дзякаваць Богу, не вынятак з правілаў. Пэўна, з-за такіх недарэк-лісьліўцаў, як Міхалкоў, Рэпін на схіле гадоў назаўсёды пакінуў Расею й пасяліўся ў Фінляндыі — «прытулку убогага чухонца», як яе называў А.Пушкін. Ёсьць, праўда, і іншая, больш важкая прычына эміграцыі Ільлі Яфімавіча. Пра яе так напісаў Уладзімер Маякоўскі: «І Рэпін, і Бродзкі (меўся на ўвазе мастак, а не паэт. — А.Г.), і Ўрубель верылі толькі ў рубель». Вядома, фінскую марку тады яшчэ толькі-толькі ўвялі, але ў Расеі на той час хлеб па картачках давалі, так што Рэпін меў рацыю, калі рублёвую веру зьмяніў на марачную.

### ГОГАЛЬ

У Карлавых Варах я пасяліўся ў досыць прыстойным санаторыі. Пастаяльцы — людзі збольшага выхаваныя й ветлівыя. Гаспадары, чэхі, сустрэлі мяне гасьцінна. Усё цякло прыстойна, як у рамане Германа Гесэ «Курортнік». І раптам я заўважыў жанчыну з тварам гогалеўскага Сабакевіча. Давялося тры разы плюнуць церазь левае плячо, каб навалач зьнікла. Ня зьнікла. У рэстарацыі я спаткаў мужчыну з абліччам Каробачкі, які па-расейску размаўляў з казахамі. Раскормленыя да амэрыканскіх памераў казахі гаварылі на такім расейскім дыялекце, што нават Мікалай Васілевіч не аднавіў бы на паперы. Яны абгрызалі словы пад самы корань. Паступова ў кожным расейцу, казаху й немцу я пачаў шукаць рысы гогалеўскіх вобразаў і зь лёгкасьцю знаходзіў. Прычына нечаканай лёгкасьці знайшлася таксама: у доме, дзе я пасяліўся, сам Гогаль жыў у 1845 годзе.

### БАРГУЗІН

Нацыянальная палітыка Расейскай імпэрыі вызначалася выключным цынізмам. Пачытаўшы расейскія падручнікі гісторыі, можна лёгка ў гэтым пераканацца. Захопніцкія войны, на думку расейскіх настаўнікаў, вяліся выключна ў інтарэсах заваяваных народаў, якім Расея несла культуру й асьвету. Якую культуру расейскі заваёўнік мог прынесьці ў Літву ці Фінляндыю ў 1940-м, у Вугоршчыну ў 1956-м, у Чэхію ў 1968-м? Ніякай. Усё, што тычыцца нацыянальнага пытаньня, у расейскіх навучальных установах падаецца блытана, цьмяна й непраўдзіва. А таму ня раз і ня два я чуў на розных тэлевіктарынах адно і тое ж пытаньне: «Хто такі або што такое баргузін?» І расейскі чалавек «нічтоже сумяшеся» адказваў, што гэта чалавек баргузінскай нацыянальнасьці. І рэч не ў пытаньні пра вецер баргузін, які разьвівае ветразь над Байкалам. А ў адказе, які паўтараецца зь віктарыны ў віктарыну і які ёсьць заканамерным вынікам расейскай нацыянальнай палітыкі, згодна зь якой ёсьць вялікія нацыі, а ёсьць народнасьці трэцяга гатунку, пра якія й ведаць няварта.

### РАСЕЙСКАЯ КНІГА

Куды б я ні паехаў, абавязкова заходжу ў кнігарні. Гэта звычка зь дзяцінства. Добрая, скажу табе, завядзёнка. Пастаіш каля палічак з кнігамі, нешта пагартаеш, нешта пачытаеш, набудзеш. Так вось воляю лёсу й стаў я літаратарам і кнігавыдаўцом. Калі літаратар я беларускі, дык кнігавыдавец расейскі, бо выдаю кнігі на расейскай мове. І за расейскую кнігу нейкім чынам перажываю. Мяне вельмі насьцярожыў той факт, што ва ўсіх замежных крамах расейскімі кнігамі гандлююць інваліды. У віленскай «Русской книге» цябе сустрэне зморшчаны чарнагаловы карузьлік з драўляным голасам; у Празе расейскую кнігу прапануе аднарукі аматар тэалягічных дыспутаў; а ў Карлавых Варах гандляр наагул катаецца ў краме інваліднаю каляскай з кудлатым сабачкам на руках. Зрэшты, кніжная крама — прытулак ня надта прыгожых людзей. Прыгажуны й прыгажуні наведваюць усялякія іншыя крамы — аўтамабільныя, ювэлірныя, моднага адзеньня. А ў кнігарнях шукаюць прытулку людзі самотныя, рамантычныя, крышку бажаволкі. ■

## ЖЫЦЦЁ І ПРЫГОДЫ СЯРЭДНЯГА ВЕКУ НАЦЫЯНАЛІСТА

Пра што думае 40-гадовы чалавек, які перажыў у юнацтве рамантычны нацыянальны ўздым, а сёньня жыве ў рэальнай, а не ў віртуальнай Беларусі? З чаго пачынаўся гэты юнацкі ўздым, зь якіх акалічнасьцяў, прычынаў, абставінаў? Як быць верным ці няверным юнацкім марам? Якімі жыцьцёвымі сытуацыямі аздоблены шлях беларускага нацыяналіста канца XX стагодзьдзя? У беларускім кіно такія пытаньні нават яшчэ не фармуляваліся, але яны існуюць і хвалююць. Пытаньні нацыянальнага самавызначэньня і непазьбежнай потым раздвоенасьці жыцьця. Гэта тэма фільма, не дакумэнтальнага, але ігравога, пастановачнага, жанравага, не выключаючы і жанру эксцэнтрычнае камэдыі.

Рэдакцыя газэты «Рабочий» абвяшчае конкурс кінасцэнароў на гэтую тэму. Аб'ём поўнамэтражнага літаратурнага сцэнару — ад 50 да 70 друкаваных старонак.

Тэрмін падачы твораў на конкурс — да 30 кастрычніка 1999 г.

Вынікі конкурсу будуць падведзеныя ў друку пры канцы лістападу.

Прызавы фонд 1000 у.а.

Сцэнары дасылайце на адрас: 220030, г.Менск, пл.Свабоды, 23, газ. «Рабочий», тэл. для давядак: 227-31-15 з 9.00 да 11.00, 236-61-42 з 15.00 да 17.00.ф

# ВІРТУАЛЬНЫ МЕНСК

Антон ТАРАС

Сусьветнае прызнаньне заваявала кампутарная гульня «Heroes of Might & Magic». Напэўна, ва ўсіх краінах сьвету моладзь абмяркоўвае, хто колькі кампаніяў прайшоў і якія артэфакты ім дасталіся. Але... Усё ў «Героях...» добрае, ды толькі нейкае чужынскае, не беларускае. Правядзеш дзень за кампутарам, заваёўваючы таямнічыя землі й змагаючыся з драконамі ды цыклёпамі, потым выйдзеш на вуліцу, і — на табе: міліцыянты беспадстаўна пачынаюць патрабаваць дакумэнты. Ды й знаёмая карцінка на экране тэлевізару зусім не падобна да інтэрфэйсу папулярнай стратэгіі.

Гэтак было да апошняга часу. Але нарэшце зьявілася беларускамоўная кампутарная гульня, і зараз патрыятычныя геймэры могуць адвесьці душу на звыклых для жыхара сталіцы ворагах. Гульня гэтая мае назоў «Менск». Яна непазьбежна мусіць прыцягнуць да сябе ўвагу ўсіх сьвядомых грамадзянаў Беларусі.



Сюжэт гульні даволі просты. Ты — звычайны беларускі рокер Лявон, які напіўся піва й вырашыў выбавіць горад ад ворагаў. На тваім шляху сустракаюцца скіны, гопнікі рознай моцы й ступені цьвярозасьці, мянты, амонаўцы, баркашоўцы, а таксама дагэтуль небясьпечныя камуністы. Усіх іх, вядома ж, трэба няўмольна валіць, зарабляючы адзінкі досьведу й грошы. Вялікае значэньне мае фактар баязьлівасьці, бо калі ты надобра не нап'есься піва ў бары «Чэсны Ізя», дык памрэш ад страху («абясьпіўленьне арганізму», як азначае гэты працэс інструкцыя).

Мэта — замачыць гопніцкі клюб «Рэактар» (тут вам дапаможа артэфакт пад назвай «Пашпарт грамадзяніна NRM», які пасьля крывавай бойкі з дыджэем трэба ўсунуць у магнітафон). І — галоўнае — калі над клюбам уздымецца мілы сэрцу Бел-Чырвона-Белы сьцяг, трэба давяршыць сваю місію й заваліць Бацьку, галоўнага нашага ворага.

У дасягненьні пастаўленай мэты вам дапаможа багаты выбар зброі: ад піўных бутэлек да бэнзапілы думэра, а таксама артэфакты кшталту БПСМ-аўскага білету.

Увогуле, «Менск» — гульня захапляльная, і нават адсутнасьць графікі дазваляе атрымаць ні з чым не параўнальную асалоду і ўсьвядоміць, хто кім ёсьць у нашай краіне. Тым больш што гопнік — гэта ня графіка, а проста цэтлік, які чалавек на сябе наклейвае. Застаецца толькі падзякаваць аўтарам і пажадаць ім, каб ніхто ніколі не даведаўся, хто хаваецца пад псэўданімамі Gildur, Morfin і Florion. ■

## паштовая скрынка

**Андрэю Б.** з Кіева. Шкада, што зачынілі беларуска-ўкраінскую праграму ў Фондзе «Відродження». Што часопіс «Сучасність» падрыхтаваў беларускі нумар — добрая навіна, але дзе шукаць на яго грошы, мы ня ведаем. У Беларусі наўрад ці што знойдзеце. Хіба ў Польшчы, хоць гэта й парадаксальна.

**Сержуку Ш.** зь Менску. Памылкі пералічайце, а ня проста пішыце, што іх шмат. Тэксты можаце таксама прыносіць у набраным выглядзе або перасылаць E-mail-ам, каб нам не перанабіраць.

У газэты ёсьць прынцыпы. Такога імя мы ня знаем. Калі ўсе будуць пісаць, як хочуць, выйдзе каляніяльны заапарк.

**Іосіфу З.** з Варапаева. Парады Тызэнгаўза цікавыя, але ж нам трэба, каб на беларускай мове было. 6 машынапісных старонак — гэта наша газэтная старонка. Вы нам шлеце тэкст у 12 старонак — у нас няма месца, каб такое вялікае надрукаваць.

**Андрэю Захаранку** зь Менску і **Алесю Чобату** з Гародні. Просім зьвярнуцца ў рэдакцыю па ганарар.

**Уладзімеру Аніськевічу** з Баранавічаў. Забярыце свой прыз за конкурс «Піва за Беларусь» у рэдакцыі або дашліце свой дакладны адрас. ■





НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________



# НАША НІВА 90 ГАДОЎ ТАМУ

*16 ліпеня 1909 году*

БЮДЖЭТЫ ЖЫЦЕЛЯЎ АДНЭЙ ВОЛАСЬЦІ

Мы падлічылі, колькі ёсьць у аднэй воласьці зь мястэчкам людзей, што служаць, жывучы ў ёй, і колькі хто бярэ пэнсіі ў год, пачынаючы ад найбольшай да найменшай. Выйшла, што

| | |
|---|---|
| сьледавацель бярэ | 2,700 руб. |
| земскі бярэ | 2,700 руб. |
| памочнік акцызнага надзірацеля бярэ | 2,500 руб. |
| малодшы акц. кантралёр бярэ | 1,100 руб. |

праваслаўны сьвяшчэньнік (пэнсіі — 547 руб., за навуку ў гарадзкім і прыходзкім вучыл. — 390) 937 руб.

| | |
|---|---|
| валасны пісар бярэ | 700 руб. |
| паліцэйскі надзірацель | 660 руб. |
| інспэктар гарадзк. вучылішча бярэ | 653 руб. |
| вураднік бярэ | 600 руб. |
| ксёндз | 540 руб. |
| І-ы сядзелец манапольк | 540 руб. |
| валасны фэльчар | 521 руб. |
| II-гі правасл. сьвяшчэньнік | 445 руб. |
| III-ці прав. сьвяшчэньнік | 445 руб. |
| начальнік почты | 441 руб. |
| І-ы вучыцель гарадзк. вучылішча | 440 руб. |
| II-гі вучыцель гарадзк. вучылішча | 440 руб. |
| II-гі сядзелец манапольк | 420 руб. |
| вучыцель прыхадзк. вучылішча | 420 руб. |
| 5 народных вучыцеляў, кожны па | 360 руб. |
| чыноўнік на пошце | 360 руб. |
| старшы гарадавы | 300 руб. |
| І-ы сторож на шасэ | 300 руб. |
| паштылён | 240 руб. |
| 5 гарадавых, кожны па | 240 руб. |
| царкоўна-прыхадзк. вучыцель | 240 руб. |
| II-гі сторож на шасэ | 240 руб. |
| сторож на пошце | 180 руб. |
| валасны старшыня | 120 руб. |
| прадсядацель валаснога суда | 120 руб. |
| гарадзкі староста | 100 руб. |
| сторож думы | 100 руб. |
| доктар ад гораду | 100 руб. |
| 3 валасных судзьдзі, па | 60 руб. |
| сторож валаснога праўленьня | 60 руб. |

А ўвесь гадавы бюджэт мужыка сярэдняй рукі з суседняй вёскі (у хаце 9 душ; мае 4 дзесяціны зямлі), калі пералажыць яго ўраджай на грошы (89 руб. 30 кап.) і дадаць тыя грошы, што ён зарабіў іншымі спосабамі (83 руб. 31 к.), то выходзіць 172 р. 61 к. ■

## прыватныя абвесткі

П.С.! Куды зьнік мой «Пашпарт грамадзяніна NRM»? Андрэй з Жодзіна, зав. Будаўнікоў 6-5, 222160, Жодзіна

23 ліпеня ў г.Касімаве пачне сваю работу экалягічны лягер пратэсту. Шырокамаштабная праграма: антыфашысцкі, контракультурны, экалягічны, анархічны і інш. праекты. Узяць удзел можа кожны. Харчаваньне бясплатна. Праезд за свой кошт. З сабой мець спальнік і намёт

23—27 ліпеня ў г.Касімаве пройдзе міжнародны фэст незалежнай і некамэрцыйнай музыкі «Касімаўская альтэрнатыва». Гуртам, якія жадаюць прыняць удзел, неабходна даслаць свае рэцэнзіі. Калі ёсьць магчымасьць — лягатып, фота і demo. 391330, Расея, Разанская вобл., г.Касімаў, вул. Начальная, 4А. Хуткая сувязь: 8-09131-4154

Прадаю том «Ян Чачот» з сэрыі «Беларускі кнігазбор» за 10 даляраў. Тэл.: 227-72-26, Віктар

Набуду старыя газэты 1920—30-х гадоў ці памяняю на нешта іншае. Тэл.: 227-72-26, Віктар

Куплю слоўнікі Станкевіча і Насовіча, беларускую Біблію. Тэл.: 226-42-63

Шукаю кантактаў зь беларускімі паганцамі. 220082, Менск, п/с 188

Куплю кнігі з сэрыі «Беларускі кнігазбор», акрамя: «К.Каліноўскі», «Філаматы і філарэты». Тэл.: 243-39-05, Алег

Куплю тамы этымалягічнага слоўніка беларускай мовы. Заплачу добрыя грошы. Тэл.: 284-47-49

**Мы друкуем таксама абвесткі большым шрыфтам і ў аформленым выглядзе, але за невялікую плату:**
*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява (мінімальны памер рэклямнага модулю 18 кв. см) — 180 000 руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 25 000 руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

Усе, хто захапляецца дзейнасьцю першага беларускага нацыяналіста Кастуся Каліноўскага, лістуйце: 220024, а/с 264, Менск

Відэафільм «Ісус» па-беларуску. На касэце — 880 т.р. Запіс — 440 т.р.+ касэта. Перасылка — 50 т.р. (пакуль толькі поштай). 220107, а/с 150, Станішэўскі Віталь

Найлягчэйшае тлумачэньне беларускасьці «Пагоні» (для асыміляваных): «Наш герб — той, што на нашых грошах»

Калі Вы жадаеце набыць апошні том «Беларускага кнігазбору» («Кастусь Каліноўскі»), тэлефануйце сёньня: 275-50-50. Аляксей

Рэспубліка — гэта чужое, прышлае! Выбірай сваё! Жыве ВКЛ!

Ліцьвін, абірай свой лад, абірай манархію, абірай ВКЛ. Слава нацыі!!!

Рэдакцыя газэты «Радавая Беларусь» набудзе нумары газэты «Савецкая Беларусь» 1920-х гадоў выданьня. Прапановы дасылайце: а/с 169, Менск, 220030

Выйшла 7 нумароў газэты «Радавая Беларусь». Можна бясплатна атрымаць № 5, 6 ды № 7 за 20 000 руб. Дзеля гэтага — дашлеце капэрту й купон б/а на адрас: а/с 169, Менск, 220030

Рэдакцыя «Радавае Беларусі» запрашае ўсіх ахвочых да стварэньня сучаснае гісторыі Беларускае Народнае Рэспублікі ды супрацоўніцтва. Пішэце да нас: а/с 169, 220030, Менск

«Наша ніва іэьцінная», газэта вольных літаратараў Беларусі, запрашае да супрацоўніцтва маладых таленавітых аўтараў. Дасылайце свае творы: а/с 169, 220030, Менск

Калі Вы хочаце атрымаць першы нумар новай літаратурнай газэты «Наша ніва ісьцінная», дашлеце капэрту й купон б/а: а/с 169, 220030, Менск

Прапануем в/а (250 у.а.) працу ў хаце. Гэта Вы можаце! Укладзіце 2 кап. са зв/а + купон б/а: а/с 122, 220089, Менск-89

Таталітарная дзяржава — гэта, на сучаснай мове, мафіёзная структура. Вячаслаў Мілкоўскі

Мусіць, таму ў Беларусі апошнія стагодзьдзі няма дабрабыту, што чуваць тут пераважна іншаземную мову. Мы да яе можам прыцярпецца, а вось для навакольнага яна непрыдатная. Вячаслаў Мілкоўскі

Выберу ўладаром над сабою таго, хто забясьпечыць мне свабоду быць чалавекам. Вячаслаў Мілкоўскі ■


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2830. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18[05], 18.07.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N3607
Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12